PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 22 (2246) Год XLIV Беласток 30 мая 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Гучыць царкоўная музыка

У саборы Святой Тройцы ў Гайнаўцы праходзіць XVIII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі — Гайнаўка '99.

Адкрыццё фестывалю адбылося 23 мая 1999 года. Пасля малебна зачытаны быў прывітальны ліст ад мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Савы. Затым дырэктар фестывалю Мікола Бушко прывітаў запрошаных гасцей, сярод якіх прысутныя былі між іншым епіскапы: Лодзінска-Познанскі Сіман, Бельскі — Грыгорый, Гайнаўскі — Міран, каталіцкі драгічынскі епіскап Антоні Дыдыч, маршалак Падляшскага ваяводства Славамір Згжыва, ваявода Крыстына Лукашук і пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктар Бурскі. Афіцыйна адкрылі мерапрыемства бурмістр Анатоль Ахрыцюк і ўладыка Міран.

На фестывалі прадугледжаны выступленні 35 хораў з Польшчы, Беларусі, Балгарыі, Эстоніі, Фінляндыі, Югаславіі, Літвы, Латвіі, Македоніі, Малдавіі, Нямеччыны, Расіі, Румыніі, Славакіі і Украіны. Першым выступіў пераможца мінулагодняга фестывалю камерны хор Крымскай дзяржаўнай філармоніі „Таўрычаскі благавест" з Сімферопаля на Украіне. Фестываль не адбыўся б без спонсараў, сярод якіх галоўнымі ў гэтым годзе з'яўляюцца Міністэрства культуры і мастацтва, Фонд польска-нямецкага супрацоўніцтва, Фонд імя Стэфана Баторыя, рады горада Гайнаўкі і Гайнаўскага павета.

30 мая будуць абвешчаны рэзультаты конкурсных змаганняў. Першы гала-канцэрт адбудзецца ў Саборы Святой Тройцы ў Гайнаўцы, а другі — у Дзяржаўнай філармоніі ў Беластоку.

У панядзелак — 24 мая — Мужчынскі патрыяршы хор „Перасвет" з манастыра св. Данілы з Масквы выступіў у саборы Святой Тройцы з сусветным правыкананнем фрагментаў Супрасльскага ірмалагіёна і напеваў з Кіева-Пячэрскай лаўры. На аўторак і сераду запланаваны былі выступленні вясковых і гарадскіх парафіяльных хораў, ад чацвярга — іншых хораў, у тым ліку свецкіх аматарскіх і прафесійных калектываў. З Беларусі прыехалі чатыры хоры: вясковы з Ражанкі, дзіцячы „Радуга" з Баранавіч і два з Мінска, сярод якіх вядомы і нашай публіцы Дзяржаўны акадэмічны хор Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча. У нядзелю ў Гайнаўскім доме культуры адбылося таксама адкрыццё выстаўкі графікі Уладзіслава Петрука „Архітэктура Падляшша".

Фестываль гэта не толькі канцэртныя выступленні ў саборы, але і каля 20 субканцэртаў. На Беласточчыне царкоўных напеваў можна будзе паслухаць 28 мая — у Заблудаве ($18^{00}$), Сямятычах ($19^{00}$), Чорнай-Беластоцкай ($18^{00}$) і 29 мая — у Нараўцы ($18^{00}$), Нарве ($18^{00}$) і Старым Корніне ($19^{00}$).

**Аляксей Мароз**



# Мы тут проста ў сябе

**Размова з бурмістрам горада Бельска-Падляшскага Андрэем СЦЕПАНЮКОМ.**

***— Не так ужо і даўно адбыліся самаўрадавыя выбары, у якіх бяльшчане зноў падтрымалі Бельскую кааліцыю, а Вы другі раз былі выбраны бурмістрам. Ці штосьці змянілася ў самой кааліцыі і гарадскіх уладах?***

— Асабліва цешыць нас, што Бельская кааліцыя, якая кіравала горадам чатыры гады, перамагла на выбарах другі раз. Сведчыць гэта пра тое, што наша праца была адобрана большай часткай жыхароў горада. У склад Бельскай кааліцыі, якая паўстала перад папярэднімі выбарамі ўваходзілі Беларускі выбарчы камітэт, Саюз левых дэмакратаў, Саюз украінцаў Падляшша і Унія працы. Да апошніх выбараў пайшлі мы без Уніі працы, бо яе структуры ў Бельску перасталі існаваць, але свой асноўны праграмны напрамак мы захавалі. Што тычыцца гарадскіх улад, то пасля апошніх выбараў не змяніўся бурмістр і яго наменнік, але выбраны быў новы старшыня, якім стаў Януш Панасюк.

***— Мінула ўжо чатыры гады Вашай працы на пасадзе бурмістра. На якія змены ў горадзе хацелі б звярнуць увагу?***

— Сапраўды, ужо звыш чатырох гадоў прыйшлося мне быць бурмістрам. Нельга сказаць, што горад радыкальна змяніўся за гэты перыяд, бо гаспадарчае становішча не дазваляла на гэта. Думаю аднак, што нашу праграму, якую мы стварылі, у вельмі вялікай ступені рэалізавалі. Адной з найважнейшых спраў была мадэрнізацыя вуліц з адначаснай разбудовай каналізацыйнай і водаправоднай сеткі, што і рэалізавалі мы паспяхова. Вельмі важны быў рамонт вуліц у цэнтры горада — Відаўскай, Казаноўскага, Замкавай. Другой справай была пабудова цеплацэнтралі; гэтую інвестыцыю думаем закончыць сёлета. Пачынаюць ужо паўставаць гэтак званыя „бельскія сукенніцы" і думаю, што праз некалькі гадоў цэнтр будзе выглядаць намнога прыгажэй. Хочам таксама распачаць пабудову новага водазабора, і поўнасцю забяспечыць нашых жыхароў вадой і павысіць адначасна яе якасць. Патрэбны ў горадзе таксама і крыты басейн, аб якім трэба будзе падумаць у будучыні.

***— Апошнім часам гаварылася пра гаспадарчы крызіс у нашых усходніх суседзяў, пра паніжэнне тэмпаў развіцця заходніх краін, што і адчуваецца ў Польшчы. Ці рэцэсія і рост беспрацоўя назіраюцца ў Бельску?***

— На жаль, так. У Бельску таксама расце колькасць людзей без працы. Калі раней было 8% беспрацоўных, то цяпер іх 11%. У галоўным бельскія будаўнічыя прадпрыемствы, якія будавалі ва ўсходніх краінах, мусяць шукаць новых рынкаў, бо інвестыцыі там амаль спыніліся. А менавіта будаўнічыя прадпрыемствы з'яўляюцца „феноменам" такога невялікага горада, як Бельск-Падляшскі. Працуе там звыш тысячы людзей, а іх паслугі вядомы не толькі ў Польшчы, але і за яе межамі. Апошнім часам і ў гэтых прадпрыемствах не ўсе могуць знайсці працу.

***— Калі большае беспрацоўе, напэўна патрэбны дадатковы капітал і новыя месцы працы. Ці ёсць шанц прыцягнуць у бліжэйшай будучыні новых інвестараў?***

— Калі гаварыць пра вонкавы капітал, які трапіў у Бельск, то напэўна трэба згадаць пра прадпрыемства з амерыканскім капіталам „Анатоль — Польшча", якое паўстала амаль з нічога, а зараз працуе ў ім амаль дзвесце асоб. На жаль, не было аднак іншых вялікіх інвестараў. У турызме мы не зможам прыцягнуць такога капіталу, як Белавежа, але ў гаспадарцы бачу вялікія магчымасці і для Бельска. Самымі вялікімі

[працяг ☞ 3]

## Што засталося ад калгаса?

Калі мы пачалі ліквідаваць у пачатку дзевяностых гадоў калгас, даўгоў у нас не было, але не было каму працаваць, бо многія на пенсіі паадыходзілі, а даходы былі ўжо слабенькія, — успамінае апошні старшыня калгаса Міхал Ваўранюк. — Вырашылі мы, што прадамо машыны і маёмасць, кожны возьме сваю зямлю і індывідуальна гаспадарыць будзем. Аднак атрымалася крыху інакш.

[калгасны рэквіем ☞ 3]

## Усё пачалося з ніўскай рубрыкі

Тое, што я цяпер раблю, пачалося з рубрыкі ў „Ніве", — кажа Уладзіслаў Петрук. — Да часу працы ў рэдакцыі я не займаўся рысаваннем архітэктурных аб'ектаў. Гэтая ідэя ўзнікла ў пачатку маёй працы ў „Ніве". У рэдакцыі я навучыўся сістэматычнасці. Выдавецкі цыкл штотыднёвіка дыктаваў строгі рытм працы, застаўляў кожны тыдзень зрабіць адзін рысунак. Тады для мяне быў гэта вялікі высілак.

[творчы юбілей ☞ 4]

## Вялікі агляд...

Публіка не падвяла і сёлета. Да таго дайшла вялікая колькасць удзельнікаў, так што ў невялікай глядзельнай зале побач пажарнай рамізы не было дзе пакрунуцца. Тым больш, што ўвесь дзень ішоў дождж і імпрэза не магла разліцца на прыгожы паплавок за будынкам.

[фальклор у Ласінцы ☞ 5]

## На Зелянец вясны канец

Хаця Сёмуха і злілася з хрысціянскім святам Тройцы, то захавала ў сваёй абраднасці шматлікія рысы язычніцтва і земляробчага культу. Пачатак абрадаў звязаны з культам зелені, росквітам прыроды, пераходам ад веснавога да летняга земляробчага цыкла прыпадаў на чацвер перад Сёмухай. Яго і называлі Зелянцом.

[этнаграфія ☞ 9]

## Іронія лёсу

Аднойчы, напрыклад, на адзін з урокаў не з'явілася група вучняў абодвух полаў. Што за чорт? — занепакоіўся настаўнік, а хутка потым дырэктар і рэшта педсавета. Толькі што іх бачылі ў школе і на першых уроках — і раптам прапалі пропадам сярод белага дня, як скрозь зямлю праваліліся! Дырэкцыя і педсавет распачалі энергічныя пошукі прапаўшых.

[успаміны ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Навошта ўсё гэта было?

Вынікі выбараў прэзідэнта, на якія беларуская апазіцыя кінула ўсе свае сілы, сталі нечаканымі ў першую чаргу для тысячаў людзей, што на працягу ўсёй вясны, рызыкнуўшы сваёй маёмасцю, месцам працы, а некаторыя свабодай рабілі ўсё, каб гэтыя выбары адбыліся.

Старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар заявіў на прэс-канферэнцыі 19 мая, што выбары ў частцы вынікаў галасавання па кандыдатах прызнаны несапраўднымі. Ён не адказаў на пытанне журналістаў, хто з кандыдатаў набраў найбольш галасоў, палічыўшы, што з юрыдычнага боку гэтыя лічбы не важныя. Віктар Ганчар, аднак, пацвердзіў, што ў выбарах прыняло ўдзел чатыры мільёны 804 чалавекі, што складае больш паловы беларускіх выбаршчыкаў. Але, каб паверыць у рэальнасць гэтай лічбы, трэба быць вялікім аптымістам.

Сапраўды жадаючых прагаласаваць было шмат. Амаль усе незалежныя беларускія газеты надрукавалі фотаздымак старога разбітага аўтобуса, у якім на адной з мінскіх вуліц быў арганізаваны стацыянарны выбарчы ўчастак. Каля дзвярэй аўтобуса стаялі чэргі. Аўтар гэтага артыкула сам бачыў такія чэргі на выбарчым участку ў Гродне, які месціўся ў мясцовай штаб-кватэры БНФ. Але Віктар Ганчар не прызнаў галасавання на стацыянарных участках сапраўдным, бо загадаў сябрам выбарчых камісій абыходзіць выбаршчыкаў па кватэрах. Такія абыходы найчасцей канчаліся ў міліцэйскім пастарунку, дзе бюлетэні канфіскоўваліся, а затрыманыя сябры камісіі або штрафаваліся, або саджаліся за краты на некалькі сутак. Таму пра масавае галасаванне па кватэрах казаць не даводзіцца. Прынамсі, у Гродне яго не было. Тут сябры выбарчых камісій хадзілі па адрасах людзей, якія самі звярталіся з просьбай прыйсці да іх са скрынкай для галасавання. Можна таксама канстатаваць, што папярэднія заклікі Ганчара да грамадзян сядзець па хатах і чакаць людзей са скрынкамі прывялі да таго, што шмат людзей не змаглі прыняць удзелу ў выбарах, бо абысці ўсе кватэры было проста нерэальна. Такія небаракі, што паверылі Ганчару і не ведалі тэлефона штаб-кватэры БНФ у роспачы тэлефанавалі ўсім знаёмым і пыталіся: „Дзе галасаваць?" (мне асабіста давялося вечарам 16 мая адказваць на некалькі такіх пытанняў).

Дык адкуль Віктар Ганчар узяў мільёны галасоў? Відаць гэта ведае толькі ён. Напрыклад, старшыня выбарчай камісіі па Гродзенскай вобласці Мікола Баўсюк адмовіўся ад каментарыя для „Нівы" наконт даных Цэнтральнай выбарчай камісіі пра 52,3% прагаласаваўшых жахароў Прынямоння.

Паводзіны Ганчара сталі адной з прычын, якія прымусілі Зянона Пазьняка зняць сваю кандыдатуру, што ў сваю чаргу выклікала непаразуменне нават у многіх сяброў БНФ. Сам Зянон Пазьняк калісьці загадаў франтаўцам актыўна ўдзельнічаць у выбарах, а потым сам заклікаў іх спыніць. Гэта прывяло да пагрозы расколу ў Народным фронце. Частка яго лідэраў крок Пазьняка асудзіла, іншая падтрымала. Рэгіянальныя суполкі ў большасці давялі выбары да завяршэння. Праўда, невядома хто выйграў. Пакуль што цешацца дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі. Падпрэзідэнцкія газеты, радыё і тэлебачанне безупынна гавораць пра поўную паразу і палітычную смерць апазіцыі. Віктар Ганчар заявіў 19 мая, што да 20 ліпеня магчыма арганізацыя новых выбараў (!). БНФ апынуўся напярэдадні ўнутраных „разборак". Можна толькі спадзявацца, што сотні тысячаў, якія прадэманстравалі сваё жаданне змяніць сітуацыю ў Беларусі, не плюнуць на „ўсю гэтую палітыку" і, калі адбудуцца сапраўдныя выбары, падтрымаюць людзей, якія будуць працаваць на карысць Беларусі, а не на свае палітычныя амбіцыі.

**Зміцер Кісель**

## Польшча вачыма беларускіх журналістаў

З красавіка пачалося азнаямленне беларускіх журналістаў з працай калег у Польшчы. Такі праект пачаў здзяйсняць Фонд развіцця дэмакратыі „IDEE". Першая група з чатырох прадстаўнікоў рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі наведала Варшаву і шэраг цэнтральных газет, такіх як „Gazeta Wyborcza", „Rzeczpospolita" і іншыя. Затым сумесна з украінскімі журналістамі раз'язджаліся па розных мясцовых выданнях, якія выходзяць у Польшчы даволі доўга большай часткай як прыватныя выданні. Было чаму навучыцца: арганізацыі працы, рэкламнай дзейнасці, журналісцкаму падыходу да аб'ектыўнасці.

Немалаважнымі былі і жыццёвыя нагляданні. Журналісты змаглі пабачыць працу незалежных судоў, жыццё і праблемы фермераў, вясковых школ, пасяджэнне рады (савета дэпутатаў). Нават наведванне турмы аказалася цікавым і карысным. Нехта з журналістаў з сумам зазначыў, што большасць беларускіх грамадзян пазайздросціла б умовам жыцця зняволеных. У турме не было толькі свабоды і жанчын. Дарэчы, першага няма і ў нас, а другіяператвараюцца з жанчын у заклапочаную праблемамі асобу.

Пра ўзровень жыцця сярэдніх польскіх грамадзян наогул гаварыць няварта. Гэта, як і культуру, трэба адчуць. Мой калега са Светлагорска Мікалай Паседзька — рэдактар газеты „Рэгіён-весці" падсумаваў, што пры пэўных палітычных і эканамічных умовах мы б таксама маглі жыць па-людску, і ўсміхнуўся, — як паны. Сапраўды, добрае жыццё і праўдзівыя газеты — рэчы ўзаемазвязаныя. А добрае жыццё — гэта не толькі каўбасы ў крамах, але і магчымасць быць палітычна і эканамічна свабодным.

**Ул. Вербавікоў, галоўны рэдактар „Гомельскай Думкі"**

*„Грамадзянскія ініцыятывы", № 4 (20), красавік 1999 г.*

## Віцебскія паведамленні

**Клуб слухачоў Беларускай рэдакцыі радыё „Палонія" зладзіў для сваіх сяброў і прыхільнікаў, якія ведаюць або вывучаюць польскую мову і цікавяцца польскай культурай, паездку на выступ тэатра з Польшчы.**

Увечары 18 красавіка сем чалавек з Віцебска пабывалі на спектаклі „Палын" познаньскага „Тэатра восьмага дня". Сустрэча з тэатрам адбылася дзякуючы руплівай працы Беларускага гуманітарнага фонду „Наша ніва", Польскага інстытута ў Мінску, фонду IDEE, фірмы „Perfekt", Згуртавання маладых творцаў „Да тэатра".

**22 красавіка ў Віцебску распачаўся абласны фестываль нацыянальных культур. Ён зладжаны ўпраўленнем культуры ды радай па справах рэлігій і нацыянальнасцей аблвыканкама.**

Шмат стагоддзяў на нашай зямлі жывуць расейцы, палякі, яўрэі, украінцы, летувісы, латышы, цыганы, татары, немцы ды прадстаўнікі іншых народаў. Некаторыя нацыянальныя і рэлігійныя меншасці маюць на Віцебшчыне свае недзяржаўныя арганізацыі. Напрыклад, у вобласці працуюць аддзел Саюза палякаў Беларусі, латышская суполка, яўрэйскія таварыствы, Віцебскі саюз немцаў, Рускі культурны цэнтр.

Галоўныя імпрэзы фестывалю адбыліся ў гарадскім цэнтры культуры. У фае Віцебскага ГЦК была разгорнута экспазіцыя жывапісу, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва творцаў розных этнасаў, якія жывуць у рэгіёне. У банкетнай зале цэнтра прайшла дэгустацыя беларускіх нацыянальных страваў. Прадстаўнікі мясцовых крышнаітаў пачаставалі ўдзельнікаў і гасцей фестывалю незвычайнай вегетарыянскай ежай усходніх народаў. Была паказана вялікая канцэртная праграма. Беларуская, польская, жыдоўскія, нямецкія і рускія мелодыі замянялі адна адну. Сваю творчасць прадэманстравалі харэаграфічныя калектывы нямецкага і яўрэйскага аб'яднанняў. Асаблівы каларыт сьвяту надалі выступы студэнцкіх зямляцтваў Віцебскага медыцынскага ўніверсітэта.

Абласныя фестывальныя мерапрыемствы праходзяць у межах III Агульнабеларускага фестывалю нацыянальных культур. Увесну бягучага года пераможцы віцебскага фестывалю будуць удзельнічаць ва Усебеларускім свяце, што пройдзе ў Гародні.

**Віцебск зноў узбударажаны весткамі пра чарговы напад невядомага на дзяўчыну-падлетка.**

Злачынства адбылося 26 красавіка каля шаснаццаці гадзін у адным з дамоў па праспекце Будаўнікоў. Невядомы малады мужчына прапусціў пятнаццігадовую дзяўчынку ў ліфт, затым вывеў ахвяру на лесвічную пляцоўку, дзе напаў на падлетка. Злачынцу перашкодзіў хлопчык, што выводзіў сабаку на вуліцу. Гвалтаўнік збег. У выніку барацьбы ў яго на твары засталіся глыбокія драпіны.

Паводле меркаванняў праваахоўчых службаў почырк злачынства нагадвае папярэднія такога кшталту выпадкі, што адбыліся ў Віцебску, Магілёве і Барысаве. Гэтыя здарэнні прывялі да смерці некалькіх дзяўчын.

**Юрась Сцяпанаў**
**НРІА „Контур"-INFO**

## Пікет у Лондане

Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі 16 травеня 1999 г. правяло перад пасольствам Рэспублікі Беларусь у Лондане пікет з нагоды прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

У Беларусі якраз быў гэта апошні дзень прэзідэнцкіх выбараў. Перад выбарамі некалькі грамадзян Беларусі, якія часова пражываюць у Вялікабрытаніі, звярнуліся да беларускага пасла з просьбай зрабіць магчымым прагаласаваць на гэтых выбарах. Пасол адмовіўся, спасылаючыся на тое, што не атрымаў адпаведных даручэнняў з Міністэрства замежных спраў.

У сувязі з тым ЗБВБ у знак падтрымкі для сваіх суродзічаў арганізавала акцыю пратэсту пад амбасадай. Прынялі ў ёй удзел 36 чалавек: беларусаў, украінцаў і англічан. Удзельнікі пікета трымалі бел-чырвона-белыя сцягі і плакаты супраць парушэння правоў чалавека ў Беларусі і яе русіфікацыі, а таксама далучэнню Беларусі да Расіі і саюзу з Югаславіяй („Не Славянскаму саюзу, так Еўрапейскаму саюзу"). Прахожым раздаваліся лістоўкі з інфармацыяй аб прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі і дыктатарскім рэжыме А. Лукашэнкі. Пратэст прайшоў у цішыні, бо ўзнімаць воклічы ў нядзелю забараняецца. Парадку пільнавалі дзве паліцыянткі ў прыгожых бледна-зялёных камізэльках.

Амбасада была зачыненая і ніхто не выйшаў сустрэцца з удзельнікамі пікета.

Калі ўсе ўжо разыходзіліся, з'явіўся адзін англічанін з правінцыі, які з хваляваннем тлумачыўся, што спазніўся на пікет, бо давялося яму ехаць у Лондан чатыры гадзіны. Чалавек меў слёзы ў вачах, што не паспеў.

**Алег Латышонак**

## 10 гадоў БАС

Беларускае Аб'яднанне Студэнтаў у Польшчы плянуе **18 верасьня 1999 г.** правесьці мерапрыемства прысьвечанае 10 гадавіне рэгістрацыі арганізацыі й яе законнай дзейнасьці. Мерапрыемства адбудзецца ў Супрасьлі ў асяродку адпачынку „Пушча".

**Плян мерапрыемства**

$12^{00}$ — $14^{00}$ прыезд, кватарунак і рэгістрацыя ўдзельнікаў;
$14^{30}$ — $17^{30}$ афіцыйная частка, даклады;
$19^{00}$ — ... урачыстая вячэра;
$9^{00}$ — $10^{00}$ сьнеданьне, разьвітаньне.

У артыстычнай частцы прадугледжваюцца канцэрты Сяржука Сокалава-Воюша й Віктара Шалкевіча.

**Кошты**

150 зл. ад асобы (начлег, абед, сьнеданьне);
110 зл. ад асобы (без начлегу, абед, сьнеданьне);
70 зл. ад асобы (без начлегу, без абеду, бяз сьнеданьня).

Свае заявы на ўдзел у мерапрыемстве можна падаваць да **15 жніўня 1999 г.**, уплачваючы адпаведны ўзнос на рахунак БАС — **Białoruskie Zrzeszenie Studentów, PBK S.A. I O/Białystok, Nr 11101154-2857-2700-1-14** — з прыпіскай „10-lecie". Пасьведчаньне ўплаты захаваць.

# Што засталося ад калгаса?

**— Вокны ды дзверы з гаспадарчых будынкаў што адважнейшыя людзі адразу павырывалі, пасля іншыя шабравалі, ажно сцены пачалі разбіваць, — пра былы калгас у Вульцы-Нурэцкай расказвае Мікалай Кусачук, які працаваў у ім кіраўніком прадукцыі. — Ад часу, калі ў 1993 годзе закрылі калгас, амаль усё поле аблагом ляжыць. Вяскоўцы толькі сваю зямлю ўзялі, а ў арэнду ніхто і браць не хоча.**



*Гэта быў шыкарны гаспадарчы будынак.*

Дабрацца ў Вульку-Нурэцкую можна толькі гравійнымі або пясчанымі дарогамі. Побач вёскі калгасныя будынкі, нібы пасля бамбардзіроўкі. Сцены ў многіх месцах разбураныя амаль да паловы. Усё зарастае пустазеллем.

— Я ад самога пачатку ў калгасе быў, з 1954 года. Спачатку бухгальтарам, пасля аграномам і найдаўжэй кіраўніком прадукцыі, дык справы калгаса вельмі добра ведаю, — расказвае Мікалай Кусачук. — Пачыналі мы ад 150 гектараў ворнай зямлі, у 1967 годзе каля 1 000 гектараў з дзяржаўнага фонду ўзялі і калі ў 1980 годзе далучылі калгас Зубачы, каля 700 гектараў пад плугам было, 500 гектараў лугоў і каля 600 гектараў лясоў. Тады і даход добры быў. У канцы сямідзесятых гадоў свінаферму закончылі будаваць і ўжо ў васьмідзесятыя гады каля 2 000 свіней і каля 100 тысяч бройлераў у год прадавалі, а яшчэ і быдла крыху трымалі. Можна сказаць, што з нашай вёскі кожная трэцяя сям'я ўступіла ў калгас.

У шасцідзесятыя гады ў Вульцы-Нурэцкай было каля 150 сямействаў і большасць выбрала аднак індывідуальнае гаспадараванне.

— Калгас лічу ідэальнай формай для нашых сялян, — успамінае мінулае Мікалай Кусачук. — Грошы зараблялі нядрэнныя, свае надзелы зямлі таксама мелі, па некалькі сваіх свіней і кароў яшчэ гадавалі, чаго ж больш хацець?

У пачатку дзевяностых гадоў многія вялікія дзяржаўныя і кааператыўныя сельскія гаспадаркі абанкруціліся з-за інвестыцыйных і прадукцыйных крэдытаў.

— Калі мы пачалі ліквідаваць у пачатку дзевяностых гадоў калгас, даўгоў у нас не было, але не было каму працаваць, бо многія на пенсіі паадыходзілі, а даходы былі ўжо слабенькія, — успамінае апошні старшыня калгаса Міхал Ваўранюк. — Вырашылі мы, што прадамо машыны і маёмасць, кожны возьме сваю зямлю і індывідуальна гаспадарыць будзем. Аднак атрымалася крыху інакш. Грошы ад ліквідацыі маёмасці трэба было пускаць на бягучыя справы і зарплаты, так што мала і засталося нам.

— Калі я адыходзіў на пенсію ў 1988 годзе, кан'юнктура ў сельскай гаспадарцы была яшчэ добрая і даўгоў у нас не было. На маё месца ніхто пасля не прыйшоў, так што і кіраваць не вельмі каму было, ажно ліквідатара ўзялі, — паясняе Мікалай Кусачук. — Зямля, у галоўным, ляжыць аблагом, а на будынкі страшна глядзець.

Хаця ў Вульцы-Нурэцкай зараз амаль 130 дамоў, жывуць у іх найчасцей пенсіянеры. Землі тут пясчаныя 5 і 6 класаў, а даход ад жыта, аўса ці бульбы невялікі.

— На ўсю вёску толькі некалькі трактароў у нас, а так коньмі абрабляюць зямлю, або наймаюць машыны з „кулка". За што ж купляць трактары ці машыны, калі даход невялікі. Таму не хочуць браць і калгасную зямлю, — кажа Ян Пытэль, у якога 7 гектараў сваёй зямлі. — Раней працаваў я ў Беластоку і Седльцах, але калі не стала працы ў горадзе, вярнуўся дамоў, але і тут цяжка пражыць. Ні трактара, ні машын сваіх няма, а з „кулка" браць дорага. Калі апошнім часам па 38 грошаў за літр малака пачалі плаціць, то і апошнюю карову прадаў.

— У мяне 3 гектары сваёй зямлі, але ў „кулку" цяпер я пачаў працаваць, то хаця ёсць за што пражыць, — прызнаецца былы старшыня Міхал Ваўранюк. — Старэйшыя калгаснікі найчасцей ужо на пенсіі, але малодшым цяжка пражыць, бо няма куды і за працай ехаць. Усюды беспрацоўе.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Дзве сустрэчы

**Самай беднай у Бельскім павеце з'яўляецца Арлянская гміна. Займае яна 172 кв. км плошчы. У 22 салэцтвах жыве каля 3 850 чалавек. Пераважную частку насельніцтва складаюць пенсіянеры. Моладзь пасля заканчэння школы пакідае вёску. У гміне адмоўны натуральны прырост. У двух падставовых школах вучыцца ўсяго 300 дзяцей. Расце лік беспрацоўных і ў сувязі з тым у грамадстве пашыраюцца настроі бездапаможнасці, разгубленасці і алкагалізм.**

У нядзелю 9 мая г.г. па ініцыятыве мясцовага павятовага раднага Юзэфа Бжаны ў школе адбылося спатканне жыхароў Арлянскай гміны з паслом Сейма Юзэфам Мазалеўскім, старастам Бельскага павета Маркам Лукашэвічам, старшынёй Рады павета Бажэнай Гратовіч і войтам Міхалам Іванчуком. На першую ў гісторыі Орлі сустрэчу з правым парламентарыем прыйшло каля ста чалавек, а сама сустрэча цягнулася тры гадзіны.

Хаця госці гаварылі пра рэфармаванне краіны і балканскі канфлікт, публіку найбольш цікавілі гмінныя справы. Жыхары гміны хацелі ведаць чаму на вёсках няма тэлефонаў, чаму дарогі ў гміне калдобістыя, чаму католікам не даюць пляц пад капліцу. З тлумачэнняў пасла Мазалеўскага і прадстаўнікоў павета вынікала, што ўсяму гэтаму вінаваты войт гміны, які не супрацоўнічае з павятовымі ўладамі, напрыклад, у справе будовы і рамонту павятовых дарог (для гэтых мэт можна атрымаць грошы з павятовых фондаў). У кантэксце наракланняў арлян на свайго войта пасол Мазалеўскі параіў ім хадзіць падчас выбараў на выбарчыя ўчасткі і выбіраць такіх прадстаўнікоў, якія потым вылучаць адпаведнага войта.

Войт Міхал Іванчук афіцыйна заявіў, што пасол не задаволіў тых выбаршчыкаў, якія чакалі, што прывязе ён войту звальненне з пасады. Потым коратка і хатычна аднёсся ён да пытанняў, закранутых у ходзе дыскусіі.

* * *

Адразу пасля заканчэння спаткання з парламентарыем і прадстаўнікамі павета адбылася чарговая сустрэча — заснавальнікаў Таварыства прыяцеляў Орлі. З мэтай стварыць арганізацыю, якая садзейнічала б развіццю і папулярызацыі мястэчка, прыехалі выхадцы з Орлі, галоўным чынам цяперашнія жыхары Бельска-Падляшскага.

**Міхал Мінцэвіч**

# Шанц для Чаромхі

Чаромхаўская гміна карыстаецца двума міжнароднымі пагранічнымі пераходнымі пунктамі: чыгуначным і дарожным, якія прызначаны для польска-беларускага турыстычнага абмену. Турыстычны прыгранічны абмен на ўсходняй граніцы гэта шанц для развудовы інфраструктуры і стварэння новых месц працы, развіцця гандлю ў Чаромсе і наваколлі.

Даўней трэба было за пакупкай ехаць у Гайнаўку, Бельск-Падляшскі ці Беласток. У крамах свяціла пустка, не было рынку. А зараз у кожную пятніцу і суботу рынак як у горадзе.

Каб скарыстаць шанц, мясцовы самаўрад намагаецца паўплываць на развіццё турыстычнага руху з усходнімі суседзямі. А ёсць такая магчымасць.

Чатыры гады таму чаромхаўская гміна выступіла з прашэннем да ваяводы змяніць статус дарожнага перахода ў Полаўцах на міжнародны ды дазволіць перасякаць граніцу аўтамабілям грузам больш 3,5 тоны.

Ваявода пачаткова цікавілася справай і акуратна ставілася да яе, зараз жа прашэнне недзе ляжыць пад сукном у чыноўніка Ваяводскай управы. Цяжка зразумець зараз, чаму ваяводская адміністрацыя замаруджвае справу. Вядома, што беларускі бок ніколі не рабіў лішняга клопату ў перамене статуса дарожнага перахода Полаўцы-Пяшчатка. А і пагранічныя службы акуратна ставяцца да сваіх абавязкаў. Сведчыць пра тое факт, што не далі яны перавезці кантрабандай за ўсходнюю граніцу шасцідзесяці крадзеных аўтамабіляў. Па-мойму, ваяводскія ўлады павінны станоўча падысці да прашэння чаромхаўскага самаўрада.

Пагранічныя службы на дарожным пераходзе ў Полаўцах карыстаюцца адпаведнымі кадрамі і неабходнай колькасцю штатаў працаўнікоў, якая спраўляецца з павелічэннем руху аўтамабіляў.

За чатыры месяцы мінулага года перасякло граніцу 94 тыс. турыстаў і 50 тыс. аўтамабіляў, а ў гэтым жа перыядзе сёлета пракацілася ўжо 149 тыс. турыстаў і 89 тыс. аўтамабіляў. Калі зважыць, што кожны з турыстаў з-за ўсходняй мяжы пакінуў па адным доляры ў нашых крамах, дык можна зрабіць рахунак на колькі пабагацела чаромхаўскае грамадства. А магчымасці былі б намнога большымі, каб пераманіць статус дарожнага перахода ў Полаўцах на міжнародны.

**Уладзімір Сідарук**

# Мы тут проста ў сябе

[**1** ☞ *працяг*]

нашымі каштоўнасцямі з'яўляюцца добраадукаваныя людзі, якія патрэбныя ў кожным прадпрыемстве. Горад наш з'яўляецца павятовым цэнтрам з казначэйскім аддзелам, судом і шматлікімі банкамі, што выдатна аблягчае працу прадпрымальнікам. Каб зацікавіць людзей звонку горадам, будзем карыстацца сродкамі масавай інфармацыі, рэкламай, будзем выкарыстоўваць розныя мерапрыемствы і сустрэчы.

***— Жыццё горада гэта не толькі гаспадарка. Беларусаў цікавіць, як развіваецца беларуская культура і ці ў бюджэце адведзены на яе грошы.***

— У жыцці горада культура з'яўляецца справай важнай. Многім вядомыя нашы культурныя мерапрыемствы. У культуры адлюстравана таксама наша шматнацыянальнасць. Пры Бельскім доме культуры дзейнічаюць польскія, беларускія калектывы, адзін украінскі, якія карыстаюцца падтрымкай гарадскога бюджэту. Менавіта яны выдатна прапагандуюць інтарэсы Бельска ў Польшчы і за яе межамі. Важным і вялікім святам у нашым горадзе з'яўляюцца Дні Бельска-Падляшскага, у час якіх паказваем тое, што ў культуры горада робіцца на працягу года. Калі гаварыць канкрэтна пра беларускую дзялянку, то трэба звярнуць увагу на вялікія заслугі дырэктара БДК Сяргея Лукашука, які вядзе многія нашы калектывы. Кожны ведае, што ў Бельску працуюць „Маланка", „Васілёчкі", „Дзявочыя ноткі", „Жуpавінка". Звяз беларускай моладзі арганізуе фестываль „Бардаўская восень", а ў Доме культуры праводзяцца раённыя агляды фестывалю „Беларуская песня". Жывуць у нас і пішуць пісьменнікі згуртаваныя ў літаб'яднанні „Белавежа". Нядаўна вылучаны быў праект падрыхтаваны Дарафеем Фіёнікам і Яўгенам Вапам „Бельск-Падляшскі — сэрца пагранічча", які выдатна паспрыяў прапагандаванні ў Польшчы нашай разнастайнасці. Напэўна грошай з гарадскога бюджэту мала, каб культура магла развівацца на высокім узроўні, але і горад наш і ўвесь рэгіён яшчэ надта бедныя, каб адводзіць на культуру дастатковую колькасць сродкаў. Каб можна было арганізаваць добра падрыхтаваныя культурныя мерапрыемствы, у нашым выпадку трэба шукаць спонсараў і выпрацоўваць дадатковыя сродкі. Беларуская культура гэта не толькі гурты, калектывы і фэсты, але і Падставовая школа н-р 3 з беларускай мовай навучання і беларускі ліцэй. Гэтыя школы ўплываюць на свядомасць нашых жыхароў і гэтым самым садзейнічаюць таму, што беларусы адыгрываюць вялікую ролю ў жыцці нашага горада. Бо мы тут проста ў сябе.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Усё пачалося з ніўскай рубрыкі



Уладзіслаў Петрук за вёрсткай „Нівы", 1991 г.

12 мая г.г. у фае Драматычнага тэатра ў Беластоку адкрылася выстаўка „Архітэктура Падляшша ў рысунках Уладзіслава Петрука", прымеркаваная да дваццацігоддзя творчай працы мастака. На выстаўцы экспанаваліся выкананыя тушшу рысункі з выявамі архітэктурных помнікаў Беластока ды мястэчак і вёсак Падляшша. Выставу галоўным чынам складалі рысункі з выдадзенага нядаўна цыкла „Драгічынская дыяцэзія", які з падрыхтаванага да друку альбома „Беласток". На выставу трапілі таксама некаторыя ранейшыя рысункі, напрыклад, каплічка на жыватворнай крыніцы на Грабарцы.

Рысункі Уладзіслава Петрука вядомыя многім чытачам „Нівы". Ён у 1986-1992 гадах працаваў мастаком у нашай рэдакцыі і займаўся не толькі графічным афармленнем штотыднёвіка, але і публікаваў свае малюнкі ў пастаяннай рубрыцы.

— Тое, што я цяпер раблю, пачалося з рубрыкі ў „Ніве", — кажа Уладзіслаў Петрук. — Да часу працы ў рэдакцыі я не займаўся рысаваннем архітэктурных аб'ектаў. Гэтая ідэя ўзнікла ў пачатку маёй працы ў „Ніве". Тады я дамовіўся з Міколам Гайдуком, які тады якраз заступаў рэдактара Георгія Валкавыцкага, што зраблю для „Нівы" некалькі рысункаў архітэктурных помнікаў. Спачатку даводзілася мне на рысунках выпрамляць пахіленыя платы, устараняць тэлефонныя слупы і дроты — усе сучасныя аксесуары. Але з часам пераканаў я рэдактараў, што ўсе дэталі павінны застацца, што я павінен быць хранітам канца XX стагоддзя. У „Ніве" я навучыўся сістэматычнасці ў рабоце. Выдавецкі цыкл штотыднёвіка дыктаваў строгі рытм працы, застаўляў кожны тыдзень зрабіць адзін рысунак. Тады для мяне быў гэта вялікі высілак. Цяпер змагу зрабіць да шасці рысункаў у тыдзень.



Каплічка св. Яна ў Межыноўцы каля Гродзіска. З цыкла „Драгічынская дыяцэзія".

З прыходам Уладзіслава Петрука на працу ў рэдакцыю ў „Ніве" з'явілася рубрыка „Родныя краявіды", якая паўгода пазней перайменавалася на „Свойскія малюнкі" і пад такой назвай праіснавала да яго адыходу з работы. Плёнам шасцігадовай працы ў рэдакцыі стаў альбом рысункаў „Stare jest piękne", які выйшаў у 1992 г. у Беластоку. У ім змешчана 250 малюнкаў архітэктурных помнікаў Беласточчыны.

Мастак пры дапамозе алоўка, пэндзля і пяра працягвае дакументаваць прыклады сакральнага і свецкага — вясковага, мястэчковага і гарадскога — будаўніцтва. У апошні час выйшлі чарговыя цыклы рысункаў: „1200-годдзе горада Ляймена", „Цеханавец", „Сямятычы", „Беласток і ваколле" і згаданы зборнік „Драгічынская дыяцэзія", прымеркаваны да візіту папы Яна Паўла II у Драгічын, які адбудзецца 10 чэрвеня г.г.

Цяпер мастак амаль выключна займаецца рысаваннем, хаця праектуе яшчэ графічныя эмблемы, кніжныя вокладкі, плакаты, ілюструе кніжкі, перш за ўсё паэтычныя зборнікі. На працягу апошніх пяці гадоў зрабіў каля шасцісот рысункаў. У планах — нарысаваць усе цэрквы ў Польшчы.

**Віталь Луба**

# Без прадузятасцей

**З прафесарам Анджэем САКСОНАМ, даследчыкам узаемаадносін паміж нацыянальнымі меншасцямі на Варміі і Мазурах гутарыць Андрэй Гаўрылюк.**

***— Ці палякі — талерантны народ?***

— Так можна сказаць, калі меркаванні другіх супадаюць з іхнімі. З маіх сацыялагічных даследаванняў вынікае, што ўзровень талерантнасці ў палякаў вельмі дыферэнцыраваны. На адносіны да нацыянальных меншасцей вялікі ўплыў мае мінуўшчына. Адносіны да нямецкай меншасці маюць характар дынамічны.

***— Зараз пасля вайны адносіны да немцаў былі варожыя...***

— З ходам гадоў адмоўны стэрэатып немцаў адмяніўся. Наступіла гэта ў канцы 80-х гадоў, калі пра немцаў стала магчымым пісаць станоўча і калі ўлады прызналі існаванне нямецкай меншасці ў Польшчы, а асабліва тады, калі маладыя палякі сталі ездзіць у Германію, сустракаць немцаў і знаёміцца з іх дабрабытам. Пакаленне народжанае пасля вайны стала па-другому глядзець на немцаў. Доследы паказваюць, што ўзровень талерантнасці цесна звязаны з узростам. Можна сфармуляваць тэзіс: чым чалавек старэйшы, тым талерантнасць да іншых меншая, а прадузятасць большая. У нейкай ступені вынікае гэта з факту, што старэйшыя людзі перажылі акупацыю і рэпатрыяцыю з усходу; маладое пакаленне не абцяжарана такім вопытам.

***— А як аднесціся да надпісаў на сценах будынкаў такіх як „Жыды да газу" ці „Цыганы вон"; іх не пішуць старэчы?***

— Той факт, што маладое пакаленне не абцяжарана старым вопытам яшчэ не абазначае, што яно ўжо талерантнае. Сродкі масавай інфармацыі, школа і сямейнае выхаванне, гэта тры асноўныя крыніцы фармавання думкі пра іншых. Калі кранаем надпісаў на сценах: часам маладыя людзі робяць гэта з упартасці, дурноты або ахвоты адрэагавання нечага неакрэсленага.

***— Усё-ткі фашыстоўскія ідэі трапляюць у Польшчы на спрыяльны грунт; з чаго гэта бярэцца?***

— Польскі і рускі неафашызмы здзіўляюць нас. Тыя выпрабаванні, якія зведчылі палякі з боку нацызму і фашызму павінны адстрашваць ад іх кожнае чарговае пакаленне. Неафашызм у Польшчы здаецца немагчымым, аднак узнікае пытанне, як глыбока такія крайнія плыні праніклі сярод моладзі.

***— Можа гэта толькі пэўная праміна-ючая мода?***

— На гэта ніхто не ўмее даць верагоднага адказу. Такія тэндэнцы павінны насцярожваць і палітычныя эліты, і грамадства і трэба ім супрацьставіцца ўсімі даступнымі сродкамі. З аднаго боку парадкава-паліцыйнымі сіламі, а з другога — добра спланаваным выхаваннем, бо радыкальныя паводзіны сведчаць, што яно дае замінкі. У сфарміраваных раней чым у нас заходніх дэмакратычных грамадствах таксама дзейнічаюць і правыя, і левыя радыкальныя групоўкі. Відаць дэмакратычнае грамадства не ў змозе справіцца з поўнай элімінацыяй такіх плыняў, але можа іх маргіналізаваць.

***— Які ўплыў на змену адносін да суседзяў мела трансфармацыя дзяржаўнага строю?***

— Напэўна прычынілася да таго, што відарыс меншасцей стаў больш рэальны. Пашыраецца адкрытасць і талерантнасць да другіх нацыянальнасцей; гэта паўсюдная прымета дэмакратыі. Калі хочацца быць дэмакратам, трэба быць талерантным і адкрытым. Сёння няма на практыцы аднанацыянальных грамадстваў. А да чаго вядзе неталерантнасць, бачым на прыкладзе Югаславіі і бежанства албанцаў з Косава.

***— Як маецца справа міжнацыянальных суадносін у Вармінска-Мазурскім рэгіёне?***

— З маіх даследаванняў вынікае, што антаганізмы ў гэтай галіне не набываюць вострых форм. Я праводзіў доследы м.інш. у Гурове-Ілавецкім, дзе пражываюць многія ўкраінцы і немцы, але канфліктаў не заўважыў. Больш: святы і абрады становіліся супольным дасягненнем усяго тамашняга грамадства.

***— А калі здараюцца канфлікты, то якія маюць прычыны?***

— Узнікаюць яны галоўным чынам сярод старэйшых людзей: так палякаў, як і меншасцей. Галоўная іх прычына зводзіцца да пяцідзесяцігадовай даўнасці крыўд у выніку перасялення, выгнання, бяды. Не абазначае гэта, што можна спыніць адукацыю грамадзян, навучанне моладзі гісторыі рэгіёна, які ад стагоддзяў быў многанацыянальны і шматкультурны, прывіванне талерантнасці і ўзаемнага адабрэння іншых культурных ці нацыянальных груп. Гэта напэўна засцеражэ нас перад такімі канфліктамі, як паміж палякамі і ромамі ў Коніне ці Млаве.

Узаемныя прадузятасці недзе яшчэ дрэмлюць і нельга нам дапусціць да іх прабуджэння, бо тады бяда будзе ўсім.

***— Дзякую за размову.***

<u>Наша пошта</u>

# Некалькі слоў пра „Ніву"

Маю ўвагу адразу ж прыцягнуў артыкул Ганны Кандрацюк „Дазвол на памяць" (н-р 11). Пра бандыцкую дзейнасць „Бурага" я ўжо чытаў у артыкуле „Ogniem i mieczem" („Над Бугом і Нарвою", н-р 2/30, 1997) і ў часопісе „Przegląd Prawosławny" (люты 1999). Пры чытанні „Нівы" тыя жахлівыя падзеі ажылі ў маёй свядомасці. Яшчэ ў 1970 годзе „Ніва" пісала пра тое, як банда „Лупашкі" забіла ў свой час настаўніка Валкавыцкага каля Нараўкі. Калі „Ніва" расказала пра тыя падзеі, я знаходзіўся ў Варшаве ў камандзіроўцы і жыў на прыватнай кватэры. Меў я тады доўгую гутарку з Янам Юзэфам Ліпскім. І калі ён нам сказаў: „Мой сябар Ясеніца", я яму паказаў „Ніву" з тым артыкулам. Ясеніца ваяваў пад камандай „Лупашкі". Нашы погляды на тыя падзеі разышліся. А „Буры" актыўна ўпісваў небывала змрочныя старонкі ў гісторыю Беласточчыны. Яго злачынствы можна параўнаць са злачынствамі тых, хто паліў Райск, Хатынь, або хто распраўляўся са сваімі ахвярамі ў Катыні. І калі сёння хтосьці не дазваляе ўшанаваць памяць ахвяр „Бурага", то такі чалавек ганьбіць установу, ад імя якой ён дзейнічае.

Чытаць „Ніву" я пачынаю з апошняй старонкі і заўсёды знаходжу нешта цікавае, арыгінальнае. Ну, хоць бы такі сказ з „Прыгуменнага цырыкання": „І напэўна і яму за акном спяваюць птушкі: *Салаўкі, Курапаты, Дразды* ці звычайныя нават крумкачы. Цікава толькі, якія яшчэ *шчабечуць* па-беларуску, а якія ўжо пастаршабрацкаславянску *чирикают*" (н-р 10). А ў сувязі з развагаманнямі пра НАТО (н-р 16) мне ўспомнілася вядомая польская песня:

Brzmijcie, trąby i puzony,
Brzmijcie nam w potężne tony,
Niosąc okrzyk w świat daleki:
„Polska w NATO, już na wieki,
Już na wieki!"

Мелодыю гэтую можна кожны дзень пачуць па радыё ў перапынках паміж перадачамі.

З цікавасцю чытаю матэрыялы пра сучаснае становішча на Беласточчыне і ў Польшчы, успаміны людзей пра мінулыя падзеі.

Думкамі аб Вашай газеце мы дзелімся з Янкам Брылём. Ён таксама Вам вельмі ўдзячны.

**Уладзімір Казбярук**

# Найчасцей пісалі пра беларускае замежжа


Перад пісьмовым экзаменам — Юстына Астроўская


Альжбета Кананюк і Анна Сцепанюк.

Пісьмовыя экзамены на атэстат сталасці па беларускай мове праходзілі 13 мая г.г. У Бельскім і Гайнаўскім белліцэях прыступіла да іх звыш двухсот выпускнікоў (103 у Бельску і 114 у Гайнаўцы). Ужо 21 лаўрэат і фіналіст Алімпіяды беларускай мовы быў звольнены з вусных і пісьмовых экзаменаў. На пасведчанні атрымаюць яны найвышэйшыя ацэнкі — шасцёркі.

Усе белліцэісты раней пісалі пісьмовыя працы па польскай мове і выбраным дадатковым прадмеце: гісторыі, біялогіі, матэматыцы або замежнай мове. У Гайнаўцы матуральныя экзамены здаваў невідучы ліцэіст Аркадзь Плева, які ўсе працы пісаў брайлеўскім пісьмом на спецыяльнай машынцы.

Пісьмовыя працы па беларускай мове трэба было напісаць на адну выбраную з чатырох тэмаў:

1. Дакажы, што ў аснове літаратурнай творчасці беларускага замежжа ляжала ўсё сваё, роднае — зямля, народ, культура, мова.

2. „Прыедзь у край мой ціхі...” (*Я. Янішчыц*). Чым зацікавіш, пра што раскажаш, як экскурсавод, дарагому госцю, які наведае Беласточчыну?

3. „Грамадскае шчасце залежыць як ад добрых грамадзян, так і ад добрага ўрада”. Абгрунтуй выказванне Яна Чачота вядомымі табе творамі беларускай літаратуры і ўласнымі назіраннямі сучаснага жыцця.

4. Выкажы свае думкі і рэфлексіі, якія наводзіць на цябе верш Леаніда Галубовіча „Паэзія”.

Пра свае ўражанні ад пісьмовага экзамену па беларускай мове расказалі вучні і настаўнікі.

— Я пісала пра літаратурную творчасць беларускага замежжа таму, што мы ў школе некальки прац на гэту тэму пісалі. Падабаюцца мне таксама вершы Наталлі Арсенневай і Ларысы Геніюш. Яны цікавыя і адначасна простыя, лёгка іх аналізаваць, — кажа Каміля Максімюк.

— Я пісала пра шчасце адзінкі і народа, паказанае ў беларускай літаратуры, адклікаючыся адначасна да сучаснага жыцця. Яшчэ перад экзаменамі я рыхтавалася да тэмы шчасця і цярпення ў жыцці чалавека, дык тэма гэтая мне падыходзіла, — гаворыць Агнешка Нічыпарук.

Найбольш вучняў, аднак, рыхтавалася да нашаніўскага перыяду, але такой тэмы не было.

— Я вагаўся ці пісаць пра эміграцыйную літаратуру, ці пра Беласточчыну, але ў канцы вырашыў пісаць пра наш рэгіён. Расказаў я пра Беларускі музей у Гайнаўцы, Белавежу з царскай царквой, Белавежскую пушчу і сутыкненне дзвюх культур, — заяўляе Крыстафор Абрамюк.

— Вырашыла я пісаць пра літаратуру замежжа, — прызнаецца Альжбета Кананюк. — На маю думку, трэба было сказаць пра роднае ў іх літаратуры, паказаць праблемы, якія іх хвалявалі.

— Я люблю паэзію, сама пішу вершы і таму вырашыла выказаць свае думкі і рэфлексіі наконт верша Леаніда Галубовіча, — гаворыць Люцына Данілюк. — У ім заўважыла я нотку смутку і жалю, што і ў маіх вершах сустракаецца.

Найбольш ліцэістаў рашылася пісаць пра замежную літаратуру.

— Тэмы вельмі цікавыя, — заяўляе настаўніца беларускай мовы Зінаіда Дземянюк. — Вучні найчасцей пісалі пра эміграцыйную літаратуру. Аналізавалі мы яе нядаўна, у IV класе, найлепш памятаюць гэта.

— Многія мае вучні пісалі пра Беласточчыну, аб якой мы многа гаварылі на ўроках, — кажа настаўнік Ян Карчэўскі. — Хачу яшчэ сказаць, што ганаруся працай невідучага Аркадзя Плевы. Пісаў ён лацінскім шрыфтам на брайлеўскай машынцы. Паколькі ён быў актыўны ў час урокаў, напісаў цікавую працу пра Беласточчыну з вялікім запасам слоў, якую пасля амаль беспамылкова прачытаў.

Вынікі пісьмовых экзаменаў на атэстат сталасці абвешчаны былі 17 мая г.г. і выявілася, што ў Бельскім белліцэі за пісьмовыя працы па беларускай мове 3 вучняў атрымала шасцёркі, 44 пяцёркі, 33 было чацвёрак і 23 троек.

У Гайнаўскім белліцэі была 1 шасцёрка, 27 пяцёрак, 60 чацвёрак, 22 троек і 4 двойкі.

Па ўсіх прадметах вучні атрымалі пазітыўныя ацэнкі і рыхтуюцца да вусных экзаменаў. Звольненых з іх усе тыя ліцэісты, якія за пісьмовыя працы атрымалі шасцёркі і пяцёркі.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Вялікі агляд у малой святліцы



Тэатральны гурток з Ягушова.

Паўтары дзесятка беларускіх калектываў Беласточчыны прынялі ўдзел у VI Аглядзе абрадавых калектываў, які прайшоў 16 мая ў Ласінцы. Сарганізавалі мерапрыемства Беларускае грамадска-культурнае таварыства і ўлады Нарваўскай гміны.

Чатыры гады запар арганізатары мерапрыемства прабавалі зацікавіць традыцыйнымі беларускімі абрадамі жыхароў мястэчка Нарва — безвынікова. Хаця ўдзельнікі пераходзілі самі сябе ў сцэнічным і песенным мастацтве. Летась агляд быў перанесены ў вясковую святліцу ў Ласінцы і выклікаў вялікае зацікаўленне жыхароў навакольных вёсак. Імпрэза як быццам нанава нарадзілася.

Публіка не падвяла і сёлета. Да таго дайшла вялікая колькасць удзельнікаў, так што ў невялікай глядзельнай зале пабач пажарнай рамізы не было дзе пакрунуцца. Тым больш, што ўвесь дзень ішоў дождж і імпрэза не магла разліцца на прыгожы паплавок за будынкам.

Арганізатары завіхаліся каля ўсіх прыезджых як маглі. Мясцовая школа пераўтварылася на цэлы дзень у сталовую. Тым не менш, кіраўнік ласінскай святліцы Аліцыя Станько не скрывала сваёй боязі за будучыню мерапрыемства:

— Я баюся, каб гэты агляд не быў у нас апошні раз. Ласінка на яго замалая. Было б шкада, бо людзям ён падабаецца і ёсць запатрабаванне на такога тыпу культурныя падзеі.

Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі не скрываў задавальнення ад таго, што столькі калектываў адгукнулася на ініцыятыву арганізатараў:

— На будучыню трэба будзе падумаць, ці мерапрыемства разбіць на некалькі, ці перанесці ў больш адпаведнае месца, дзе былі б лепшыя ўмовы яго правядзення.

— Я думаю, што павінна яно праходзіць у гмінным цэнтры, у Нарве, — мяркуе войт Якуб Садоўскі. — Бо няма ніякіх сумненняў, што такое свята ў гміне трэба ўтрымаць. Старэйшыя людзі, якіх тут бачым, выхаваныя на тых абрадах, патрабуюць іх. Тым больш прыемна, што вяртаецца да традыцыі моладзь.

У Ласінцы выступілі дзеці з Ягушова, Рыбалаў і бельскай „тройкі”. Паказвалі яны, між іншым, якія перашкоды закаханым маладым ставілі калісьці бацькі, а таксама сенакосны і жніўны абрады. Старэйшыя выканаўцы, сярод якіх былі жыхары Беластока, Гарадка, Агароднічак, Рыбалаў, Козлік, Тыневічаў, Крыўца, Краснага Сяла, Чыжоў засяродзіліся на такіх пабытавых гісторыях, як пакудзелле ў зімовыя вечары, дагавары бацькоў перад вяселлем маладых, адведкі, хрысціны. Багата было сакавітага народнага гумару, смеху і частавання публікі самымі рознымі ласункамі.

Аднак з-за колькасці ўдзельнікаў мерапрыемства зацягнулася. Таксама не ўсе выканаўцы вытрымлівалі ў ходзе паказу адпаведны тэмп. Часам на сцэне адбывалася гутарка саміх выканаўцаў, якое публіка або не чула, або не да канца разумела. Часам замест арыгінальнага абраду паяўляўся нейкі сучасны скетч, не заўсёды ў добрым тоне.

Такое мерапрыемства, як агляд беларускіх абрадавых калектываў, безумоўна патрэбнае. Напэўна, аднак, не ў такой форме. Бадай варта адмовіцца ад гігантаманіі на карысць якасці. І шкада было б забіраць такое свята з Ласінкі, дзе яго чакаюць, рыхтуюцца да яго і радуюцца прыезджым. **М. В.**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Да ўвагі бацькоў

У будучым 1999/2000 навучальным годзе ў Пачатковай школе н-р 4 у Беластоку будзе праводзіцца навучанне беларускай мовы на ўзроўні I, II і III класаў. Бацькі, якія жадаюць, каб іхнія дзеці ў гэтым узросце вывучалі беларускую мову могуць запісваць іх у гэтую школу. Адрас школы: **ul. Częstochowska 6a, tel. 742 21 02**. Школа знаходзіцца ў цэнтры Беластока.

Таксама ж у цэнтры знаходзіцца Самаўрадавае прадшколле н-р 14, у якім вядуцца заняткі па беларускай мове ды дадатковыя заняткі ў танцавальна-музычным і тэатральным гуртках. Бацькі могуць запісваць у яго дзяцей у дашкольным узросце. Адрас прадшколля: **Al. Piłsudskiego 20/4, tel. 742 19 05**.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Мазгавітыя арыгіналы

— Чым вылучаецца VIII „е" сярод аднагодкаў? Тут можна, напрыклад, займальна пагаварыць пра паэзію. У звычайных класах такая тэма *крапае* дзве-тры асобы, — кажа **Валянціна Бабулевіч**, настаўніца беларускай мовы ў бельскай „тройцы".

У VIII „е" — мазгавітыя арыгіналы. Тут пяць лаўрэатаў цэнтральнага этапу (у тым адзін падвойны) прадметных конкурсаў:

**Мажэна Жменька** — лаўрэатка па беларускай і рускай мовах,

**Аня Аўсянюк** — лаўрэатка па беларускай мове,

**Ася Якімюк** — лаўрэатка па рускай мове,

**Міхась Сцепанюк** — лаўрэат па беларускай мове, а таксама ўдзельнік ваяводскага этапу прадметнага конкурсу па гісторыі,



*Сваімі допісамі і ўдзельніцтвам у Сустрэчах „Зоркі" ўзбагачалі вобраз нашай газеты. Першы рад (злева): Аня Аўсянюк, Ася Якімюк, Мажэна Жменька, настаўніца Валянціна Бабулевіч, Моніка Мельнік, Юліта Вяршко. Другі рад: Міхась Сцепанюк, Чарак Хіліманюк, Тамаш Суліма, Андрэй Таранта.*



*VIII „е" ля свайго крыжа, які вучні размалявалі на IV Сустрэчах „Зоркі".*

**Андрэй Таранта** — лаўрэат па біялогіі.

Не менш імпазантны спісак выдатнікаў, якіх сярэдняя адзнака перавышае **пяць**:

1. **Аня Аўсянюк** — 5,62.
2. **Мажэна Жменька** — 5,21.
3. **Міхась Сцепанюк** — 5,21.
4. **Юля Навумчук** — 5,14.
5. **Гражына Пашкоўская** — 5,07.
6. **Андрэй Таранта** — 5,07.
7. **Дыяна Краўчук** — 5,07.

Усе васьмікласнікі, 27 асоб, хочуць паступіць у ліцэй. Дваццаць асоб збіраецца ў бельскі белліцэй.

— Чаму такі выбар? Проста, далей хочам разам вучыцца, — кажа Мажэна Жмэнька.

Нягледзячы на тое, што ў VIII „е" процьма індывідуальнасцей, клас лічыцца дружным калектывам. Іх выхавацелькай, з чацвёртага класа, спадарыня **Галіна Федарук**.

— Цяжка ўявіць гэты клас без **Чарка Хіліманюка**, без яго спецыфічнага пачуцця гумару, — кажа Валянціна Бабулевіч. — Іншай індывідуальнасцю — **Аня Аўсянюк**, бліскучая інтэлектуалка і чалавек з глыбокай душой.

**Міхась Сцепанюк**, у сваю чаргу, можа задзівіць у любой сітуацыі. Ён удзельнічаў ва ўсіх Сустрэчах „Зоркі". Апошнім часам, па волі чытачоў, стаў пераможцам журналісцкага конкурсу „Зоркі" — „Артыкулы квартала". Яго фельетон „Астануся мастаком" меў станоўчыя вынікі. Па ініцыятыве **Жанэты Ролі**, Міхась разам з **Мажэнай Жменькай**, **Гражынай Пашкоўскай**, **Касяй Лукашук**, **Магдай Крышпінюк**, **Томкам Сулімам** і **Петрусём Янкоўскім** заснавалі беларускае кабарэ „Куль".

У VIII „е" таксама рэдактары „Бельскага гасцінца" (краязнаўчага часопіса на беларускай, падляшскай і польскай мовах): Міхась Сцепанюк, Тамаш Суліма і Давід Рошчанка. Варта адзначыць, што іхнія артыкулы там — на беларускай мове.

Дзяўчаты гэтага класа вядомыя як першыя „Журавінкі".

— Ніколі раней я не мела лепшага класа, — кажа Валянціна Бабулевіч. — Праца з вучнямі VIII „е" прыносіла многа радасці. Заўсёды хацелася ісці сюды на ўрокі.

**ЗОРКА**

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*



*Лаўрэаты прадметных конкурсаў: Міхась Сцепанюк (на першым плане), Мажэна Жменька, Ася Якімюк, Аня Аўсянюк, Андрэй Таранта (ззаду).*

# Польска-беларуская крыжаванка № 22

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 18:** Луг, душа, мінерал, нумар, барак, лоб, сачавіца. Мінус, нуда, немач, удар, гул, Лі, моц, жалоба.

Узнагароды, **аўтаручкі (cienkopisy)**, выйгралі: **Міхал Гайдук**, **Агата Карэйчык**, **Анэта Хіліманюк** з Нарвы, **Івона Лісавец** з Гарадка, **Яраслаў Вышынскі**, **Наталля Юзючук**, **Лукаш Пухальскі** і **Мажэна Пушкарэвіч** з Бельска-Падляшскага. **Віншуем!**

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ►Л | І | Rumb | Guz | Т► | | У▼ | | | ▼ |
| Chińskie imię | Skandal | Р | Droga | У | Łoskot | Р | Urna | Klepisko | |
| Dzień powszedni ► | Б | У | Р | З | Е | Н | Ь | Kula | |
| ►К | У | М | А | Opamiętanie | Dama | А | Góra | Ш | Kasza |
| Kuma / Banda ► | З | Б | Р | О | Д | Hak ► | Т | А | К |
| 📖 | | Oda ► | О | Ф | А | Ara ► | А | Р | А |
| Panama | | Humor ► | Г | У | М | А | Р | 📖 | Щ |
| ►П | А | Н | А | М | А | Oka ► | Д | К | А |

„Зорка" № 22 30.05.1999

# Кахаю, але не заўсёды слухаюся

Міра Лукша

## *Дождждзык*

Ідзе дождж: стук і пук
Палачкай па вуліцах.
Няма ног у яго і рук —
А да твару туліцца.

У абдымкі схопіць клён,
З мурооў жартам зводзіцца...
Шэпт і такт, шум і звон...
Ходзіць дождж, заходзіцца.

Маю маму завуць Ліда. У яе карыя вочы і карычневыя валасы. Яна доктар. У хаце яна займаецца мной, маім братам і сястрычкамі. Мама дапамагае нам у вучобе. У яе многа працы. Гатовіць нам снеданне, абед і вячэру, мые посуд, адзенне, прасуе. Пасля гэтых заняткаў яна стомленая, аднак чытае кніжкі і газеты. Мая мама шчырая, пяшчотная, вясёлая, цярплівая і разумная. Я не аддам яе нікому за ўсе скарбы зямлі!

**Оля ДОРАШ, кл. III „д"**

Найдаражэйшай асобай на свеце для мяне — матуля. Яе завуць Лена. У яе кароткія валасы і карычневыя вочы. Мая матуля часта мяне песціць. Яна разумная і шчырая, вясёлая і гаспадарлівая. Люблю сваю маму за тое, што яна такая, якая ёсць.

**Аня НЕЛІПІНСКАЯ, кл. III „д"**

Мая мама завецца Ліля. У яе светлыя валасы, сінія вочы. Яна любіць апранацца ў спадніцу і белую блузку. Ёй 31 год. Яе любімы колер — сіні. Яе цікавіць мастацтва. Калі ў яе свабодны час, яна малюе карціны. Любіць пячы смачныя пірагі. Самай любімай яе стравай — агуркковы суп і бліны з капустаю. Вельмі кахаю сваю маму і не хачу ніякай іншай.

**Наталля ДЗМІТРУК, кл. III „а"**

Маю маму завуць Геня. Яна невысокага росту, прыгожая і шчырая. Яна шчаслівая, калі я добра вучуся. Дапамагае мне рыхтаваць урокі. Я стараюся разумець усе маміны словы. Гэта найдаражэйшыя словы, якія трэба запамятаць. Я люблю і кахаю сваю маму.

**Эдыта ХАМЮК, кл. III „д"**

Мая мама завецца Мірaслава. Яна высокая жанчына. У яе круглы твар, карыя вочы і чорныя доўгія валасы. Яна разумная і найдаражэйшая. Мая мама любіць чытаць цікавыя кніжкі, піць гарачую каву, прыбіраць у хаце і працаваць у агародзе, дзе расце многа цюльпанаў, фіялак, ружаў, падснежнікаў, ландышаў, яцынтаў, астраў, дальяў, незабудак. Мама ўмее рабіць на прутках цёплыя шведрыкі, доўгія шалікі і вельмі прыгожыя шапкі. Я вельмі люблю сваю маму.

**Эдыта ПЕРАВОЙ, кл. III „а"**

Мая мама завецца Людміла. Ёй сорак гадоў. У яе чорныя валасы і карычневыя вочы. Яна любіць чытаць кніжкі. Добра і смачна варыць. Яна працуе ў магазіне. Я яе моцна кахаю, але не заўсёды слухаюся.

**Пётр СЦЕПАНЮК, кл. III „д"**

Маю маму завуць Галіна. У яе чорныя валасы і карыя вочы. Гэта найдаражэйшы і найпрыгажэйшы чалавек у маім жыцці. Мая матуля чуллівая. Умее цярпліва тлумачыць заблытаныя справы. Я сваёй маме магу расказаць пра ўсё на свеце, яна заўсёды мяне выслухае, моцна да сябе туліць і цалуе. І хаця як кожны чалавек мае добры і дрэнны настрой, яна для мяне найдаражэйшая.

**Аня БЕЛАКАЗОВІЧ, кл. III „а"**

Маю маму завуць Ніна. Яна шчодрая і мілая. У яе многа добрых прыкмет. Дапамагае мне ў патрэбе. Тлумачыць мне цяжкія ўрокі, якіх я не разумею. Час ад часу крычыць на мяне, але і так я яе кахаю найбольш у свеце.

**Віялета АЛІФЯРУК, кл. III „д"**

**Дарагія матулі! Шаноўныя чытачы. Прапануем Вашай увазе допісы дзетак з III „а" і III „д" класаў бельскай „тройкі" на тэму „Мая мама".**

**З нагоды Свята маці жадаем Вам усяго найлепшага!**

Імя маёй мамы — Ліля. У яе зялёныя вочы і карычневыя валасы. Мая мама разумная. Яна працуе ў шпіталі. Для мяне яна найдаражэйшая ў свеце.

**Гося ПАРФЯНЮК, кл. III „а"**

Люблю добрыя рукі маёй матулі, якія даюць мне надзею і дабрыню. Кахаю яе вясёлую ўсмешку. Яна гаспадыня ўсяму дому. Кожнай вясны яна закладае агарод. Калі я вяртаюся са школы сумная, матуля мяне суцешыць, супакоіць. Кахаю яе за дабрыню і ласку.

**Віялета ДАНІШЭЎСКАЯ, кл. III „д"**

Маю маму завуць Аліна. Ёй 34 гады. У яе сінія вочы і карычневыя валасы. Яна любіць апранацца ў спадніцы. Радуецца, калі мой брат прыносіць добрыя ацэнкі. Я не люблю, калі мама злосная. Яна ўмее пячы смачныя тарты, бліны з грыбамі і капустай. Яе любімы колер — чырвоны.

**Віялета РАМАНЮК, кл. III „а"**

Мая мама завецца Марыёля. Яна вельмі прыгожая. У яе светлыя валасы, блакітныя вочы і прыгожы твар. Яна тоненькая і вясёлая. Мая мама разумная, шчырая, пяшчотная, ласкавая і цярплівая. Працуе ў банку „ПКО". У хаце гатуе абед, сцірае, прасуе, прыбірае, займаецца шыццём. Дапамагае мне ў вучобе. На жаль, не мае для мяне замнога часу з-за працы. Хачу, каб у яе было больш свабодных хвілін. Яна для мяне — найдаражэйшая. Не хачу іншай матулі!

**Марта ФЕДАРУК, кл. III „д"**

Віктар Швед

## *Колька пасвіствае толькі*

Хваліць сыночка маці:
— Мой працавіты Міхал
Вучыцца многа ў хаце,
І нешта свішча ціха.

Тут скардзіцца суседка:
— Мой неслухмяны Колька
Працуе ў хаце зрэдку,
Пасвіствае ён толькі.

## *Кім у жыцці быць хочаш?*

Бацька запытвае Рыгора:
— Кім у жыцці быць хочаш?
— Аб тым каб працаваць шафёрам
Я мару ўдзень і ўночы.

— Чаму цікавішся няспынна
Якраз такім заняткам?
— Каб ты сапраўдную машыну
Купіў мне ўрэшце, татка.

Малюнкі на старонцы:
Оля ДОРАШ,
Магда ПАХВІЦЭВІЧ,
Марта ФЕДАРУК,
і Эдыта ХАМЮК.

# Пару слоў пасля вячэрні

**Размова з айцом мітратам Мікалаем ШАБЕЛЯНАМ, настаяцелем Семяноўскага прыхода.**



*— Ходзіць легенда ўжо, што калі Вы прыйшлі на службу Божую ў новы прыход, доўгі час пуставаў новазаснаваны могільнік...*

— Гэта было ў 1957 годзе, але, праўда, нас у той год пакінулі трое прыхаджан. Народу тады было шмат, больш за 1400 асоб (цяпер толькі 690), ды уміральнасць была меншая.

*— Вы за гэты ўвесь час складалі хроніку, са здымкамі, спачатку чорна-белымі. Вось пачатак: „Вёска Семяноўка, размешчаная на ўскраіне Белавежскай пушчы, на 30 кіламетраў ад Гайнаўкі і 60 ад Беластока, заснавана ў 1634 годзе... Царква — з XVIII стагоддзя, мураваная, тынкаваная, аднапрасторная, дах крыты бляхай, велікамучаніка Георгія Пераможцы, архітэктурны помнік... 31 жніўня 1957 года — зрыгаванне парафіі..."*

— Я прыехаў яшчэ перад Раждаством, самастойнай парафіі яшчэ не было, не было яшчэ і плябаніі. Жылі мы ў прыватным доме. Вось здымкі з пабудовы парафіяльнага дома. З людзей, што на здымках, многіх няма ўжо ў жывых. А з гэтых маленькіх — ужо людзі сталага ўросту, нават пажылыя. Некаторым даваў я шлюбы, а давялося ўжо і пахаваць іх...

*— Іх тут як макам пасеяў, на хрэсных ходах, пры працы для царквы, на ўрычыстасцях. Рыгаровіч, Бірыцкі... Ужо пакойныя. Усё ўвекавечана на плёнцы. Пабудова званіцы, абнаўленне храма, пабудова акуратнага муру... Іканастас у 1970 годзе, праекту Міхаіла Вайткевіча. Паліхромія. Новыя тынкі... Царкоўка на могільніку св. Панцеляймона (1984). Абнаўленне царквы (1994). Амаль на ўсіх здымках — Антон Бірыцкі...*

— Антон быў старастам 45 гадоў, аж да самае смерці. А вось тут здымкі і з буднях, і менш будніх дзён. Здымкі з заканчэння школьнага года, 8 класы. Бягучыя справы. Памятаеш, якія ў твой час былі класы — пад трыццаць асоб. Маладых яшчэ ў нас крыху ёсць, не то, што ўжо зусім няма, але змяншаецца лік людзей — работы няма, людзі выязджаюць шукаць працу. У мінулым годзе даў я тры шлюбы, у гэтым — адзін. Дзяцей мала прыбывае... Меў я прапановы перайсці на іншыя месцы, але ўжо моцна зжыўся з людзьмі. Гэта так яно і ёсць — сям'я. Як дома — дамашняя царква, так гэта ёсць царкоўная сям'я. Родам я з Тарэспаля, з рабочай сям'і, матушка — з Кузніцкага прыхода. З нашага прыхода выйшлі айцы Уладзімір Трусевіч, Георгій Мацкевіч, а Анатолія Шыманюка і Ілью Трусевіча я сам і хрысціў.

*— Прапаведзь гаворыце на мясцовым дыялекце.*

— Як у нас *гаворат*. Бо ўжо за рэчкаю — *гавораць*. У школе на рэлігіі дзяцей навучаю таксама, хаця бывае, што трэба даць нейкія паясненні, як гэта будзе па-польску. Ды ў нулявым класе — усе па-польску гавораць. Раней крыху заўважаў — на калідоры толькі пасвойму размаўлялі.

*— Дзесятак год таму, у час маёй настаўніцкай практыкі ў маёй былой школе, таксама на калідорах чутна была родная мова.*

— Ну, а як там у вас, у „Ніве", прыватныя размовы, не службовыя?

*— У нас такія людзі, для якіх гэта не „службовая" мова. Вядома, гэта здзіўляе непрыемна некаторых, як калісьці будучую паню ваяводу, з якой дзялілі мы калідор у былым Доме друку: „Oni nawet na korytarzu mówią po białorusku!" Мы сваіх дзяцей пасылаем у беларускае прадшколле, дзеці вывучаюць беларускую мову ў Беластоку, хоць на гэтым, здаецца, не вельмі залежала нашым беларускім дзеячам. Шмат залежыць ад бацькоў. Калі мой брат сказаў калісьці маме, што не хоча хадзіць на беларускую мову, яна паказала яму рамень. Хоць, папраўдзе, у той час заняткі па беларускай мове ў нас былі смяртэльна нудныя... А дзецям не заўсёды хочацца вучыцца, хадзіць на ўрокі, лепш часам у мяч пагуляць чым мазоліць сабе галаву?..*

— Не ведаю, якая гэтага прычына. Бывае, што не хочуць вучыцца. На нямецкую мову таксама не вельмі ахвотна ходзяць. Так што няма чаго дадумоўвацца глыбейшых прычын. Падобна і з Законам Божым. Цяпер гэта патрэбна хоць і таму, што бярэш пасля шлюб у царкве. Я Элю Засім не мушу перапытваць з „рэлігіі" ці дапаўняць яе веды, бо ведаю яе пільнасць на занятках, сам ацэньваў яе веды, не прапускала ўрокаў. А бывае так, што дзіця матку вучыць малітву.

*— Абяцаецца ў час шлюбу і хрышчэння стварэнне тае царквы сямейнай. Але калі бацькоў заядаюць комплексы, калі топчуць роднае і веру Хрыстову, то якое можа быць наступнае пакаленне? Я думаю, што чалавек без комплексаў ён і шчаслівейшы, і больш спакойная, упэўненая ў яго душа. Ён ведае, хто ён, якія яго карані. Гэта дае яму ўпэўненасць змагацца за сваё. Гэта і вера. Гэта павінна даць і школа. Аўтарытэты. А Вы таксама ёсць тут аўтарытэтам, таму так няёмка было той бабулі ў золкі ранак на прыпынку аўтобуса — патрывожылі Вы яе пытаннем на тэму, для яе неістотную, або якую яна хацела забыць, „устыдную": чаму вашы ўнукі не ходзяць на беларускую мову? Вашы дочкі закончылі гайнаўскі беларускі ліцэй, Эва была настаўніцай беларускай мовы, цяпер — Аліна. Вы задаеце ўголас пытанні, а сумленне людзей павінна ім самім адказаць... Дзякую Вам за хвіліну сустрэчы і размовы і жадаю, каб Вашы прыхаджане далей цешыліся разам з Вамі ласкай Божай на наступныя гады.*

**Гутарыла Міра Лукша**

*Фота аўтара*



# Што ў кляшчэлеўскай культуры?

Марыя Клімовіч працуе дырэктарам Гмінна-гарадскога асяродка культуры ў Кляшчэлях ужо тры гады. На працу штодзень даязджае са сваёй роднай вёскі Дабрывады, ад якой сюды як рукой падаць. Марыя мае шчасце працаваць па прафесіі, бо яна закончыла якраз Культурна-асветную студыю ў Аполі.



*Дырэктар М-ГОКа ў Кляшчэлях Марыя Клімовіч.*

Хаця цэлы асяродак, які калісьці гучна называўся б домам культуры, месціцца ўсяго ў трох пакоях над тутэйшай рамізай, у гэтай пляцоўцы канцэнтруецца культурная дзейнасць Кляшчэлеўскай гміны. А калі трэба — новая школа, адкрытая ў 1996 годзе, заўсёды служыць дапамогай: ёсць там цудоўная глядзельная зала са сцэнай, якая так неабходная ў культурнай дзейнасці М-ГОКа.

Вось і зусім нядаўна, 24 красавіка адбывалася там святкаванне юбілею двух мастацкіх калектываў, якімі ганарыцца Кляшчэлеўская гміна: трыццацігоддзя калектыву з Дабрывады і дваццацігоддзя „Каліны" з Дашоў. Колькі за гэтыя гады выступалі спявачкі-самадзейніцы на розных конкурсах, фэстынах, урачыстасцях! Як памятаю, ніколі не вярталіся яны з агляду беларускай песні без узнагарод. А колькі было паездак з канцэртамі не толькі па Беласточчыне, але і па ўсёй краіне! Ведаюць іх і на поўначы, бо выступалі ў Сопаце, і на поўдні, дзе спявалі ў Пярэмышлі. Выступалі ў Казімежы над Віслай, і ў Вэнгажэве, а таксама ездзілі на Беларусь. Не пералічыш усіх месц, дзе пабывалі спявачкі з Дашоў за дваццаць гадоў сваёй дзейнасці і дабрывадзянкі — за трыццаць гадоў. М-ГОК апякуецца сваімі калектывамі, а пакойная маці Марыі Клімовіч была адной са стваральніц дабрывадскага калектыву.

У той жа час у М-ГОКу дэманстравалася выстаўка народных разьбяроў Кляшчэлеўскай гміны: Славаміра Смыка, Міхала Маркевіча, Ільі Зіневіча. Быццам бы рэзьбілі яны для душы, а выйшла так, што працы апынуліся на выстаўцы.

Ужо два гады ў Кляшчэлях адбываюцца раённыя элімінацыі Гайнаўшчыны на Фестываль беларускай песні. Таксама тут адбываецца цэнтральны агляд школьных драмгурткоў, выступаючых на беларускай мове. Памятаю, як калісьці ў інтэрв'ю сакратар Беларускага таварыства Валянціна Ласкевіч сцвердзіла, што менавіта тут яны ахвотна праводзяць многія важныя мерапрыемствы. Тут ёсць сёння дзеля гэтага не толькі добрыя ўмовы, але перш за ўсё падкупляе цяпло і шчырасць тутэйшых улад да людзей, што хочуць працаваць на ніве культуры.

І летам, і зімою — заўсёды тут нешта дзеецца. Вось узяць хаця б Дні Кляшчэль. Адбываюцца яны летам, і працягваюцца тры дні. Тады ў нас, гаворыць Марыя Клімовіч, праходзіць шмат мерапрыемстваў, адбываюцца спартыўныя спаборніцтвы для моладзі, супольна з Беларускім таварыствам мы наладжваем народны фэстын.

Зімою мы наладжваем экуменічныя Вігіліі з удзелам праваслаўных і каталіцкіх свяшчэннікаў, дадае дырэктар М-ГОКа. Тады адбываюцца супольныя спевы калядак. Заўсёды прысутнічаюць дзіцячыя хоры з царквы і з касцёла.

Трэба падкрэсліць, што многія нашы мерапрыемствы могуць адбыцца толькі дзякуючы супрацоўніцтву з мясцовымі фірмамі, канстатуе Марыя Клімовіч. Узяць вось хаця б і Дні Кляшчэляў. А што ўжо гаварыць пра ёлкі ў М-ГОКу! Тут і „Drewexpol", і „Poldrew", і „Niterwa" (масарня), і „Alwaks" (пякарня), і крамы, і лясніцтва, і гурток паляўнічых — кожны імкнецца дапамагчы, каб даць дзецям радасць.

А вось цяпер мы будзем святкаваць Дзень дзіцяці. І таксама са спонсарамі! Святкаваць будзем у нас, у асяродку, або на дварэ. Мы ж таксама летам маем вядзем тут адкрыты басейн, усміхаецца спадарыня Марыя.

Адзін дзень у тыдзень працуе ў М-ГОКу Валянціна Дмітрук, настаўніца з Сакоў, якая выконвае тут ролю тэатральнага інструктара. Яна займаецца рознымі мерапрыемствамі, урачыстасцямі і вельмі патрэбная ў дзейнасці асяродка.

І яшчэ адно. Тут жа, у асяродку Яўгенія Казімерук рэдагуе газету „Co słychać w gminie", якая з'яўляецца адной з лепшых раённых газет на Беласточчыне. Марыя Клімовіч ёй дзельна дапамагае пры рэдагаванні.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# На Зелянец вясны канец

Сонца, сягнуўшы сваёй высотнай магчымасці, пакорна зніжалася, наближаючы вячэрні адпачынак. Адчувалася суботні перадсвяточны настрой. Заціхаў погук працы. Вясковыя хлапчукі-падшпаркі, узбіваючы босымі нагамі пыл вясковай вуліцы, наперагонкі беглі ў напрамку паросльіх аерам балоцістых берагоў рэчкі. Заўтра Тройца! Свята гэтае, уведзенае ў культурную практыку Праваслаўнай царквы ў XIV стагоддзі Сергіем Раданежскім, злілося з колішнім старажытнейшым земляробчым святам беларусаў і іншых славянскіх народаў. Аб яго бытнасці ў народнай і хрысціянскай культуры сведчаць шматлікія назвы. Прыкладна: найбольш пашыраная сярод беларусаў Сёмуха, якая ўзяла свой назоў ад таго, што прыпадае на сёмы (русальны) тыдзень пасля Вялікадня; Зялёныя Святкі або Зелянец — ад культу зеляніны і пераходнасці паміж веснавым і летнім земляробчымі цыклами („На Зелянец вясны канец"); Пяцідзесятніца — ад пяцідзесятага дня пасля Вялікадня; Святога Духа — ад саслання Яго на апосталаў, што выпадала на панядзелак або Клечане — так называлі зялёныя галінкі, якімі ўпрыгожвалі ў гэты дзень сялібу. З апошнім звязаныя вераванні, прыкладна — калі клечане на Тройцу пасохне, то і сенаванне будзе добрае, а калі змокне — дык і сена счарнее. Невядома чаму, але клечаня не ставілі ў тым доме, у якім не мінуў яшчэ год ад смерці нябожчыка.

Хаця Сёмуха і злілася з хрысціянскім святам Тройцы, то захавала ў сваёй абраднасці шматлікія рысы язычніцтва і земляробчага культу. Пачатак абрадаў звязаны з культам зелені, роскітам прыроды, пераходам ад веснавога да летняга земляробчага цыкла прыпадаў на чацвер перад Сёмухай. Яго і называлі Зелянцом. Сабраныя ў пасляпоўдне гэтага дня лугавыя і палявыя зёлкі (кожныя ў сабе мелі сваю моц і прызначэнне) гаспадыні адвячоркамі вязалі ў малыя вяночкі і ў першы дзень Сёмухі свяцілі ў царкве ўсільваючы іх моц. Потым яны віселі ў сенях за вушаком і выкарыстоўваліся ў залежнасці ад патрэб. А то абкурвалі імі нябожчыкаў, ачышчаючы дарогу на той свет, а то лечылі іх дымам перапалох, а то, прывязаўшы да шыі дабытку, які першы раз выганялі ў поле, баранілі імі яго ад злых моцаў. Як пазнейшая з'ява, выразна сакупляючыя язычніцкія і хрысціянскія элементы, пратрывала яна да сёння, але, мабыць, адыдзе з пакаленнем нашых матуль і тое, у што верылі, стане звычайным чарговым фальклорным рэліктам напаказ.

У далёкім мінулым святкаванне Сёмухі мела падвойную форму. Самай архаічнай была лясная, дзе адбывалася ўсё вакол бярозы, абавязкова стройнай і маладой. Апрача культу зеляніны быў гэта таксама і культ шлюбу, і продкаў. Вакол бярозы складаліся ахвяры продкам, адбываліся карагоды і завяршалася супольным гасцяваннем, нават распуснага характару. З часам гэткую лясную бярозу ссякалі і прыносілі ў вёску. Там яе ўпрыгожвалі стужкамі, свежаразвітыя галінкі завівалі ў вянкі і косы і адбывалася тое, што і ў лесе. Вядомае гэта, як форма вясковая, а бярозу бралі за цэнтральны аб'ект, мабыць таму, што найраней развівалася.

У некаторых мясцовасцях Беларусі называлі гэта „кумаваннем". Было яно можа больш вобразнае і звязанае канкрэтна з устанаўленнем прыязных сяброўскіх адносін. Гераінямі былі дзяўчаты і то дарастаючыя, як сімвал жыцця, пладавітасці. Ішлі ў лес і праходзілі парамі тры разы ўзад і ўперад пад завітымі ў вянок галінкамі бяроз, спяваючы песню пра ўстанаўленне сяброўскіх адносін. Пасля спажывалі абрадавую страву, найчасцей яечню. Заўважальна выразнае ў гэтым рэха колішняга сімвалізавання пераходу ў паўналецце так, як вясны ў лета. А бярозы завівалі на „годы добрыя, на жыта густое, на ячмень каласісты, на авёс расісты, на грачыху чорную, на капусту белую".

Падобны да гэтага абрад „куста", які адбываўся найчасцей на другі дзень Сёмухі. Як і ў большасці абрадаў звязаных з гэтым святам асноўную ролю ігралі дзяўчаты. Самую маладую і прыгожую ў вёсцы прыбіралі кустом. Кляновыя, ліпавыя ці бярозавыя галінкі верхам уніз звязвалі ў аснове так, што дзяўчына ў сапраўднасці нагадвала куст. На галаву надзявалі вянок. І гэтак зрыхтаванае „дзявочае войска" на чале з „кустом" па дзве ў рад, згодна з узростам абыходзіла вёску, спяваючы песні і славячы „куст", як сімвал багацця, еднасці, велічалі гаспадара, гаспадыню, іх дзяцей і жадалі добрага ўраджаю, атрымоўваючы за гэта дарункі. Абрад нагадвае калядаванне і валачобнікаў. Пасля заканчэння абраду, „куст", у якога прасілі, каб радзілі „жыта, пшаніца і ўсялякая пашніца" і гаварылі „каля куста сачавічанька густа", што знайшло адлюстраванне ў песнях, разрывалі. Галінкі забіралі з сабой, сушылі і лячылі імі скулы. Усё канчалася застоллем, падчас якога аддавалі культ продкам. У многіх рэгіёнах Падляшша звалі гэта „хаджэннем з каралевай". „Дзе каралева ходзіць, там пшанічка родзіць".

Хаця ў значнай ступені зялёнасвяткавая абраднасць згубілася, як і многае па дарозе часу, то ўсё ж такі нямала і засталося. І тое, што пратрывала да сёння, то пратрывала без ніякіх упрыгожванняў пад густ моды, як гэта пры калядной ці велікоднай абраднасці. Самым асноўным і характэрным для Сёмухі з'яўляецца ўпрыгожванне „маем" або інакш „клечанем" дамоў і панадворкаў. Асабліва варот ці інакш кажучы брамы. Калі не стаялі па яе баках ссечаныя бярозы, то абавязкова віселі галінкі клёну, вязу або ліпы. Вокны былі ўпрыгожаны аерам, часта званым баб-кай. Ім была ўслана цэлая падлога, на ім пяклі хлеб. Адным словам — пахла аерам. Ля ўваходных дзярэй таксама стаялі маладыя бярозкі. Хлявы ўсе ў зелені. Прыдарожны крыж, царква — таксама. Мала гэтага. Выганяючы ў поле кароў, абвешвалі іх лістоўем. Даўней, калі дабытак пасьлі на агульным, пастухі, на першы дзень Сёмухі зганяючы яго дамоў, самага стройнага і спакойнага вала накрывалі сеткаю, за якую ўтыкалі зялёныя галінкі і палявыя кветкі. Так святочна прыўкрашанага вала гналі вёскаю, а гаспадар павінен быў яго выкупіць, што рабіў ахвотна ўцешаны тым, што гэта яго вол быў найпрыгажэйшы. А вечарам, ля вогнішча, пастухі і вясковыя дзяўчаты гасцявалі.

Радасць з абуджэння нівы пакрысе гасла і пераходзіла ў боязь за пасевы. Гэта і дало пачатак абраду абыходу палёў. Раней рабілі гэтак з „кустом" ці „каралевай", пазней у выніку дамінацыі хрысціянства рабілі тое з працэсіяй з іконамі і харугвамі. На чале ішоў святар ды асвячаў вясковыя загоны. Гаворыцца, што найчасцей гэта адбывалася на трэці дзень Сёмухі, але не была гэта пастаянная дата. У залежнасці ад вёскі выпадаў ён у розныя дні. Лічылася, што абрад гэты, званы таксама „рызаю", павінен сумясціцца паміж Зялёнымі Святкамі і Янам або нават Пятром і Паўлам. Канчалася гэта супольным гасцяваннем. Ну, і абавязкова на першы і другі дзень Сёмухі палілі на ўзгорках або выганах абрадавыя вогнішчы, з якімі невядома чаму змагалася асабліва каталіцкае духавенства. Закінулі цалкавіта гэты абрад у пачатку XX стагоддзя.

Сёмуха, Тройца ці Клечане — час вяселляў. Адбывалася тады іх найбольш. Нездарма адным з культаў абраду быў культ шлюбу.

**Міхаль Пашкоўскі**

# Асвячэнне Святадухаўскай царквы

Адметная ў краявідзе Беластока Святадухаўская царква — адна з самых вялікіх у Еўропе. 16 мая г.г. Яго Блажэнства Сава, мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы, асвяціў гэты храм. Дапамагалі яму многія іерархі царквы ў Польшчы і епіскап Гродзенскі Арцемій. У асвячаным алтары былі пакладзены мошчы святых мучанікаў Віфлеемскіх Дзяцей.

— Гэтая царква — красамоўны доказ нашай веры і праўды, — сказаў мітрапаліт.

Пабудова храма працягвалася 17 гадоў. У 1985 г. двойчы была падпалена. 28 верасня 1986 г. быў асвечаны галоўны крыж (7,5 м вышыні, 5,4 м шырыні, 800 кілаграмаў вагі). Разам з крыжам царква мае вышыню 50 метраў. Усярэдзіне можа памясціць тры з паловай тысячы вернікаў. Аўтарам праекта з'яўляецца архітэктар Ян Кабац.

У 1987 г. парафію наведаў патрыярх Канстанцінопаля Дымітрыёс І. Чатыры гады таму парафія прыдбала пяць званоў. У планах — пабудова новай званіцы 75-метровай вышыні. Усярэдзіне новы іканастас на 15 метраў вышыні, асвечаны 17 чэрвеня 1997 года. Настаяцелем прыхода тут з самага пачатку айцец мітрат Юры Барэчка, а прыхадскім святам — другі дзень Святой Тройцы.

У дзень асвячэння царквы стаяла дажджлівае, халоданае надвор'е. Нягледзячы на абставіны, у набажэнстве ўдзельнічала каля 5 тысяч вернікаў. Тыя, якім не пашчасціла ўвайсці да бітком набітага храма, маліліся на царкоўным плацы. Чарговы ўжо раз выявілася, што ў вялікія святы царква не ў змозе памясціць усіх вернікаў.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



# Мілая ўрачыстасць

Мілая ўрачыстасць адбылася ў Нараўцы 6 мая. Мясцовы ЗАГС кожны год запрашае ў залу шлюбаў залатыя пары, якія пражылі супольна звыш 50 гадоў.

Не ўсім, на жаль, здароўе дазваляе дажыць да такога юбілею. У гэтым годзе ў Нараўчанскай гміне 50-гадовы юбілей адзначалі толькі тры шлюбныя пары: **Анна** і **Сяргей Галабурды** з Альхоўкі, **Ніна** і **Канстанцін Кабаці** з Мінкаўкі, **Марыя** і **Францішак Кісялеўскія** са Скупава.

Атрымалі яны медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё". З пажаданнямі залатым парам выступіў войт гміны Мікалай Павільч. Ва ўрачыстасці прысутнічалі таксама кіраўнік ЗАГСа Ніна Янцэвіч, старшыня гміннага самаўрада Сяргей Раманчук ды іншыя прадстаўнікі гміннай управы. Уручылі яны юбілярам медалі, прысвоеныя прэзідэнтам Аляксандрам Кваснеўскім, а таксама букеты кветак. Узрушаныя юбіляры дзякавалі за ўзнагароды і памяць. **(міква)**

Адгалоскі

# Мая праўда аб вайне

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

Васіль Быкаў у кніжцы „Сьцяна", якая рэцэнзавалася ў „Ніве" н-р 11 ад 14 сакавіка 1999 г., перавялічвае страты Чырвонай Арміі, якія — па яго словах — былі ў 7 разоў большыя, чым нямецкай арміі, страты якой, праўду кажучы, ніхто не падлічыў. Трэба тут узяць пад увагу, што Чырвоная Армія адначасова ваявала і супраць саюзнікаў Германіі, якім яна наносіла ўдары, але і сама пацярпела ад іх страты. Напэўна большыя страты былі ў Чырвонай Арміі ў першай фазе вайны, калі многа савецкіх салдатаў і афіцэраў папала ў нямецкі палон і паміралі там ад голаду. Але, пачынаючы ад баёў над Беразінай і Дняпром, нямецкая армія таксама пачала атрымоўваць вельмі вялікія страты і ў 1941 г. пахаронкі сталі часта прыходзіць да нямецкіх маці і жонак. А ў апошняй фазе вайны нямецкая армія пацярпела ў некалькі разоў большыя страты, чым савецкая. Я сам бачыў страшныя пабоішчы, дзе на адлегласці больш 10 км трупы нямецкіх салдат ляжалі паўметровай гурбою на цэлай шашы, а па іх ужо ездзілі савецкія машыны і танкі. У другім месцы стаялі калоны нямецкіх грузавікоў з сядзячымі ў кузавах мёртвымі пехацінцамі. Гэтыя пабоішчы зрабілі савецкія танкі. Я бачыў і артылерыйскую падгатоўку для фарсіравання ракі Одры: на нямецкім беразе зямля кіпела ад разрываў снарадаў савецкіх гармат, расстаўленых па 300-500 шт. на кіламетр фронта. Пад такім агнём ніхто не астанецца жывым!

Васіль Быкаў крытыкуе жорсткі сталінскі прыказ з 1942 г. „ни шагу назад". Гэты прыказ быў выдадзены ў самыя цяжкія моманты на фронце, калі была яшчэ надзея на перамогу. Аднак варта прыгадаць, што аналагічны прыказ выдаў Гітлер у красавіку 1945 года, калі немцы не мелі ўжо ніякіх шанцаў на перамогу. Калі мы фарсіравалі Одру і прабіваліся ўперад, то бачылі многа нямецкіх салдат, павешаных на дрэвах, ля дарог. Гэта, згодна прыказу, СС вешала нямецкіх дэзерціраў і адбіўшыхся ад часцей. На грудзях павешаных віселі таблічкі з надпісамі, за што яны павешаны. На сценах дамоў у вёсках былі расклееныя плакаты з прыказам Гітлера.

Амерыканцы, якія — па словах Быкава — былі такімі „мудрымі" і „умелымі" ваякамі, бо страцілі ў вайне толькі 300 тысяч чалавек, дасягнулі гэтае коштам цярпення іншых народаў, якія папалі пад нямецкую акупацыю. Народы, у тым ліку і беларускі, гібелі пад гітлераўскім тэрорам, а амерыканцы не спяшалі вызваліць Еўропу, не адкрывалі другога фронту. Яны ваявалі толькі з нямецкімі жанчынамі, старыкамі і дзецьмі, бамбардзіруючы нямецкія гарады.

Калі ў сакавіку 1945 г. Чырвоная Армія падыходзіла да Дрэздэна, то англа-амерыканская авіяцыя, ужо на вачах савецкіх салдат і афіцэраў зрабіла тэрарыстычны налёт на гэты горад і збурыла яго, хаця не было ў ім ніякіх ваенных аб'ектаў. Было ясна, што заходнія саюзнікі хацелі прадэманстраваць сваю паветраную магутнасць. Бамбардзіроўкі гарадоў сталі ваеннай дактрынай ЗША: бамбардзіравалі яны нямецкія і японскія гарады, потым гарады Карэі і яе сталіцу Пхэньян, затым гарады В'етнама і Ірака, а цяпер — Югаславіі.

Але англа-амерыканскія хітруны не дацанілі Сталіна: ён дабіўся кааліцыі, хаця не шчыра, заняў палавіну Еўропы і паказаў ім дулю. Хопіць паглядзець на здымкі з Тэгеранскай, Яяцінскай і Патсдамскай канферэнцый: адразу відаць, хто тут найважнейшы: Ф. Рузвельт і У. Чэрчыль выглядаюць пры І. Сталіне як непаслухмяныя хлапчукі. Ён падаўляў іх сваім інтэлектам, хаця быў хворы паранояй.

А чаму ЗША дабіліся такіх поспехаў у развіцці тэхнікі? Ці славянскія і азіяцкія народы менш таленавітыя? Не, не менш таленавіты. Развіццё ЗША выклікала іх геаграфічнае палажэнне і доступ да мораў. У суседстве ЗША не было магутных дзяржаў, якія маглі б канфліктаваць з імі. А Русь была 250 гадоў пад панаваннем татара-манголаў і яе развіццё было спынена. Заходнія дзяржавы багацелі ад марской таргоўлі, захопніцтва заморскіх багатых краін, гандлю неграмі, які існаваў у ЗША да 1865 года. Гандаль „жывым таварам" прыдумаў не якісь праваслаўны „схізматык", але каталіцкі манах Лас Казас. Дзве сусветныя войны не толькі не закранулі тэрыторыю ЗША, але многія мільярды долараў у золаце перакачавалі з еўрапейскіх банкаў у амерыканскія. З разбуранай, галоднай Еўропы пераехалі працаваць у ЗША многія выдатныя спецыялісты. У канцы вайны выдатныя нямецкія вучоныя і спецыялісты пацягнуліся да амерыканцаў. У рэзультаце ў іх рукі папала больш 36 тысяч нямецкіх ліцэнзій і больш 45 тыс. найлепшых нямецкіх вучоных, канструктараў, інжынераў, спачатку прымусова, а пасля дабравольна — дзякуючы стварэнню адпаведных варункаў працы, якіх не было ў разбуранай Еўропе. Гэта нямецкія спецыялісты — такія як Вэрнер фон Браун і іншыя, канструіравалі першыя амерыканскія ракеты і спадарожнікі. Раней Гітлер выгнаў з Германіі вучоных яўрэйскай нацыянальнасці, у тым ліку вялікага вучонага, лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў 1921 г. Альберта Эйнштэйна, якія ў ЗША унеслі вялікі ўклад у стварэнне атамнай бомбы.

Пасля вайны Англія і Францыя страцілі свае калоніі. У 1991 годзе савецкія класава блізкія, але тупыя і недавучаныя кіраўнікі, па ўзоры сярэднявяковых князёў ці негрыцянскіх царыкаў падзялілі між сабою дзяржаву і на сусветнай арэне асталася толькі адна супердзяржава — Злучаныя Штаты Амерыкі, якая імкнецца не толькі да сусветнага панавання, але хоча і навязаць другім народам свае гангстэрскія парадкі, названыя імі „дэмакратыяй". І хаця Варшаўскі дагавор быў распушчаны, кіраванае амерыканцамі НАТО не толькі не ліквідавалася, але расшыраецца, накапляе свае сілы. Кожны адукаваны чалавек разумее, што НАТО — гэта не абарончы саюз. Старэйшае пакаленне памятае, як у апошнюю вайну Францыя, Англія і Германія без ніякай дагаворанасці спынялі ў свята Раждаства Хрыстова і Пасхі ваенныя дзеянні на сушы і ў паветры. Натаўскія лётчыкі, выконваючы злачынныя прыказы сваіх бязбожных палітыкаў і генералаў, бамбілі Югаславію і ў дні каталіцкай, і праваслаўнай Пасхі. Гэта сведчыць аб тым, як далёка зайшла дэмакратыя ў ЗША і кіруемым імі НАТО. Па-мойму нападзенне на Югаславію з'яўляецца прэлюдыяй для большай вайны, якую НАТО пад любым прэтэкстам распусках супроць старадаўняй праваслаўнай дзяржавы ў Еўропе, таму што ЗША сталіся сусветным гегемонам і жандарам, які будзе судзіць, хто „добры" і паслушны, а каго трэба бамбіць. Ей Богу, ёсць над чым задумацца!

**Мікалай Капчук**

Успаміны з мінулай эпохі

# Іронія лёсу

*(заканчэнне; пачатак у 9 нумары)*

Наступны прыклад. Вучань не горшы ад першага — здольны, працавіты, дысцыплінаваны, тонка выхаваны. Ліцэй і выбраны сабою інстытут закончыў з усмешкай. Паступае на работу. І тут яшчэ крок у крок паспяшае за ім фартуна: працу атрымаў цікавую, высокаплатную, перспектыўную. Да таго ж на месцы работы атрымаў адразу добрую кватэру. Самі разумееце, не ў многіх пачынаючых уласную жыццёвую дарогу такі цудоўны пачатак. Пачало складвацца ўражанне, што гэтай ідыліі проста не будзе канца. Пачало складвацца, але не зладзілася — жыццё зноў унесла свае карэктывы ў такую стройную рэчаіснасць. Непрыемнасці паявіліся нейк зразу і ў самым нечаканым месцы.

Згодна з традыцыяй хутка наш шчасліўчык-вундэркінд спраўляе наваселле і „ўкупное" заадно. Запрашае на гэтую двайную ўрачыстасць „сваё" новае начальства, супрацоўнікаў і сяброў. Ён добра разумее, што не толькі на фартуну спадзявацца трэба, але і фартуне трэба часам дапамагчы.

Ужо пасля першых тостаў аднак, калі яшчэ ўсе госці былі даволі цвярозымі, гаспадар і віноўнік урачыстасці быў ужо зусім п'яны. Ён не толькі перастаў займацца сваім начальствам, але сп'яну нагаварыў ім усялякіх глупстваў ды шчыра прызнаўся што думае пра іх...

І гэтага хапіла. Так святочна распачатая ўрачыстасць закончылася надта будзённа. Начальства, затаіўшы ў душы крыўду, выйшла раней часу. І фартуна ад нашага ўдачніка пачала адварочвацца.

У чым справа? Хто вінаваты? Справа зноў жа ў тым самым — малады чалавек не падрыхтаваны да дарослага жыцця. А дакладней кажучы, падрыхтаваны толькі тэарэтычна.

Галоўная і, зрэшты, адзіная віна тут маладога чалавека толькі ў тым, што ён вельмі хутка ап'янеў. А быць п'яным сярод цвярозых заўсёды рызыкоўна. А ўжо быць п'яным сярод цвярозага свайго начальства гэта проста невыбачальная дурнота.

З другога ж боку, як жа ж было яму і не ап'янець, калі гэта была першая сур'ёзная і адказная выпіўка ў яго жыцці. Дасюль ён не піў, бо патрабавалася ад яго не піць, а ён быў добрым, дысцыплінаваным вучнем і студэнтам ды заўсёды паступаў згодна з патрабаваннем часу — і гэта давала дасюль добрыя вынікі.

А цяпер ён апынуўся ў зусім іншым свеце — дарослым і самастойным. Тут свае звычаі, правы і законы; адны пісаныя, другія няпісаныя. І часцей за ўсё, важнейшыя тыя апошнія. У гэтым свеце бываюць моманты, калі быць п'яным небяспечна, але і адмовіцца ад выпіўкі таксама надта небяспечна. Хто ў нас, скажыце, паверыць у тое, што дарослы чалавек не п'е, бо не можа або, яшчэ горш, не хоча піць. Такі чалавек аўтаматычна становіцца падазроным і нават небяспечным. У такіх няма сяброў, такіх не любяць супрацоўнікі і начальства.

Аптымальны выхад быў бы тут такі — пі, але не ўпівайся! На жаль, такія самі не нараджаюцца, тут практыка і загартоўка патрэбны. А для гэтага, у сваю чаргу, інтэнсіўныя трэніроўкі, а значыць, і грошы неабходны. І так круг „немагчымасцяў" для добрай, здольнай і дысцыплінаванай моладзі замыкаецца...

Проста немагчыма нават тэарэтычна ўявіць сабе, каб падобнае глупства, пры любых абставінах, мог дапусціць, напрыклад, наш наступны абітурыент.

Гэты ліцэіст быў абсалютным працілеглым пастаўленнем двух першых. Ні празмерный стараннасцю ў навуках, ні руплівасцю, ні дысцыплінай ён ніколі не грашыў. Нават наадварот, гэтыя шляхетныя паняцці і тое, што яны абазначаюць, былі чужымі і праціўнымі яму. Ён і яны існавалі ў нашай школе незалежна адно ад другога, аўтаномна.

Аднойчы, напрыклад, на адзін з урокаў не з'явілася група вучняў абодвух полаў. Што за чорт? — занепакоіўся настаўнік, а хутка потым дырэктар і рэшта педсавета. Толькі што іх бачылі ў школе і на першых уроках — і раптам прапалі пропадам сярод белага дня, як скрозь зямлю праваліліся! Дырэкцыя і педсавет распачалі энергічныя пошукі прапаўшых, якія, хаця і не адразу, але ўсё ж такі закончыліся поўным поспехам. Уся кампанія была накрыта ў жаночым туалеце, дзе яны, відаць, з-за адсутнасці яшчэ ў нашых сучасных школах банкетных кабінетаў, жыццярадасна трапезнічалі. Трапеза складалася з розных закусачных далікатэсаў пераканаўча запіваных спіртнымі далікатэсамі.

На грознае настаўніцкае пытанне — „Што за безабраззе тут адбываецца?!" — са стаічным спакоем і асабістай годнасцю ён адказаў, што сёння свята і дзень яго ангела, якія ён, як любіцель традыцый і веруючы чалавек, штогод з сябрамі адзначае. Бо як жа ж і не пачаставаць, калі яго павіншавалі?..

Ці ж такі хлопец мог бы так апраставалосіцца ўжо ў час дарослага банкету? Ніколі!

Калі каго цікавіць далейшы лёс яго, дык калі ласка. Нейк закончыў нашу школу, нейк здаў выпускныя экзамены і атрымаў атэстат сталасці, нейк дастаўся і закончыў універсітэт. Добра ажаніўся, прыдбаў добрую кватэру і абзавёўся сям'ёй. Паступіў на добрую і ў любімым горадзе работу. Праца за родную валюту аднак хутка прыелася яму. Ужо не надта мяккай была яна. Кінуў яе і падаўся туды, дзе капітал прыгнятаў чалавека, а валюта цвёрдаю была. Папрацаваў там нейкі час прыцісныты-прыгнечаны капіталістычным капіталам, але, відаць, не абразіўся на яго, бо немалую частку гэтага капіталу прывёз з сабой вяртаючыся дадому. Зноў аформіўся на дзяржаўную работу дома, бо пара ж было ўжо і адпачыць чалавеку. І стаў жыць-пажываць сыта, спакойна і не пацеючы. У нас такім заўсёды слава і паважанне — прэстыж, адным словам...

На заканчэнне хачу яшчэ раз вярнуцца да туалетнага банкету, у разгоніцы якога і я — як член педсавета — таксама ўдзельнічаў. Сорамна мне цяпер за свой паступак і паступак нашага педсавета.

Ужо цяпер, напрыклад, за такі паступак прыйшлося б бэкнуць не вучнямбанкетчыкам, а настаўнікам-разгоншчыкам. Тут яўна была нарушана намі вучнёўская прыватнасць і іх „dobra osobiste", якія так дбайна сцерагуць нашы сучасныя законы. Аб'ектыўна развалжыўшы ўжо па-сучаснаму, дык не так ужо і вялікая была віна за нашымі банкетчыкамі, бо нібыта яшчэ і цяпер афіцыйна выпіць вучню ў школе не дазваляецца. Але зважыўшы чаму прысвечаны быў гэты банкет, дык сама выпіўка адразу адыходзіць на задні план. Не выпіўка галоўнае тут, а дзень ангела, іменіны, хрысціянскае свята. А гэта ў сваю чаргу — чысцейшай вады хрысціянскія вартасці, на якія падымаць сваю бязбожную руку нікому не дазволена. Але ж ці чулі мы тады, тупіцы няшчасныя, і ведалі што-небудзь пра гэтыя вартасці?!. Нічагуткі!..

Аднак добра і правільна сталася, што я адышоў ужо на пенсію, бо і яшчэ мог бы дапусціць нейкі промах.

**Васіль Сакоўскі**

# Нічым не пацешылі

З 30 мая будзе абавязваць новы расклад цягнікоў на чыгунцы. Чым дзяржаўная чыгунка пацешыць сваіх пасажыраў на лініі Чаромха — Беласток? Аказваецца — нічым добрым. Дагэтуль ехалі з Чаромхі ў Беласток 2 гадзіны (50 км у гадзіну), дык зараз будзем ехаць на гадзіну больш.

У чым прычына такога запаволення?

Вядома, лінія патрабуе рамонту. Шпалы ледзь трымаюцца купы. Калі такую выкідаеш у час абмену, рассыпаецца яна на кусочкі. Нават на дровы не надаецца. А новых на абмен няма, бо чыгунка не мае чым зарплату плаціць работнікам і ў „Тота-лётку" крэдыт бярэ!

Для прыкладу: у гэтым годзе на рамонт лініі Чаромха — Беласток дарожная служба ў Бельску-Падляшскім атрымала 1200 шпалаў. Гэта кропля ў моры патрэб. Нават на адзін кіламетр лініі іх не хопіць, таму шпаўчанікі выкідаюць найгоршыя і астаўляюць усяго па некалькі штук у адным месцы. Абы купы трымалася! Калі надалей так справы пойдуць, дык у хуткім часе зааруць чыгунку!

Безупынна прыходзіцца мне ездзіць цягніком гэтай лініі. Ёсць прамежкі, на якіх трэба абмежаваць хуткасць да 30 км. Але не па ўсёй лініі! У новым раскладзе жыхары з-пад Сямятыч будуць мець два прамыя цягнікі ў Беласток. Зранку з Сямятыч цягнік будзе адʼязджаць у 5.22 (з Нурца ў 5.36) і ў Беласток прыбудзе а 8.53. Пасля абеду цягнік будзе выязджаць з Седльцаў у 14.40, а ў Беласток прыбудзе ў 19.26. Па адваротным маршруце з Беластока ў Седльцы будуць таксама выязджаць два цягнікі: у 5.17 і 13.41.

Адно заганнае ў новым раскладзе: у Чаромсе не будзе спалучэння з апошняга цягніка з Беластока ў Гайнаўку. У Чаромху прыязджае ён у 23.40, а іншы цягнік адпраўляецца ў Гайнаўку у 23.25.

**(ус)**

# Умеюць думаць

Бельскі самаўрад многа ўвагі прысвячае мадэрнізацыі дарог. Дзеля гэтага забяспечыўся ён трыма „Камазамі", двума экскаватарамі, грэйдэрам Д-75 і іншымі машынамі. У гэтым годзе Бельская гміна на дарожныя справы адвяла са свайго бюджэту 515 тыс. злотых, з чаго 350 тыс. на пастаянныя рамонты і 165 тыс. на асфальтаванне вуліцы ў вёсцы Арэхвічы. Ініцыятыва праклaсці асфальтнае палатно ў гэтай вёсцы выйшла ад яе жыхароў. Арганізаваўся грамадскі камітэт, а кожны селянін абавязаўся ўнесці сваю долю — 300 злотых.

Бельская гміна налічвае 52 вёскі, з ліку якіх каля дваццаці карыстаецца асфальтаванымі вуліцамі. Гміна не мае магчымасці мадэрнізаваць у кожнай вёсцы вуліцы толькі за свой кошт і таму патрабуе 10 працэнтаў коштаў з боку грамадства. Некаторыя асяроддзі разумеюць сітуацыю і арганізуюць грамадскія камітэты ў сваіх вёсках ды ўплачваюць неабходную суму або гарантуюць рабочую сілу пры правядзенні работ. Такім чынам у мінулым годзе было пракладзена асфальтнае палатно ў Зубаве даўжынёю 1 400 метраў, вартасцю 140 тысяч злотых.

Нядаўна адбыўся вясковы сход у Дубяжыне, жыхары якога абавязаліся ўнесці сваю долю ў асфальтаванне вуліцы — па 200 злотых ад гаспадаркі.

Войт Бельскай гміны Юрый Ігнацюк сказаў, што ў бліжэйшы час гміна заключыць дагавор на дарожныя работы з кожным селянінам асобна.

У наступным годзе плануецца таксама мадэрнізацыя вуліцы ў Шасталах. У гэтым годзе гміна зробіць асушку вуліцы, а ў наступным — пакладзе асфальтнае палатно.

Войт адзначыў, што сёлетні бюджэт не пакрыў бы сапраўдных коштаў мадэрнізацыі дарог, каб не саэ тэхнічнае абсталяванне. Значыцца, у Бельскай гміне чыноўнікі ўмеюць думаць.

**Уладзімір Сідарук**

# Новая амбулаторыя ў Чаромсе

14 мая г.г. у Чаромсе адкрылі новую амбулаторыю ў будынку Прадпрыемства шчуначнага рухомага саставу. Цяпер тут лепшыя ўмовы працы для медыцынскага персаналу. Шкада толькі, што амбулаторыя знаходзіцца не ў цэнтры Чаромхі. Цяжка хадзіць дый далей чымсьці было раней перш за ўсё пажылым жыхарам гэтага пасёлка чыгуначнікаў. Зараз у амбулаторыі пяць дактароў ды сем медсясцёр і прымаюць яны каля пяці тысяч пацыентаў з Чаромхі і наваколля.

**(гай)**

# Запрашэнне

31 мая 1999 г. (у панядзелак) у Пачатковай школе ў Ягуштове каля Бельска-Падляшскага адкрыецца выстаўка **„З альбома Яўгена Аніські"**. Арганізатары выставы: Беларускае гістарычнае таварыства, Пачатковая школа і Прыватны музей у Бельску-Студзіводах сардэчна запрашаюць прыняць удзел у мерапрыемстве. Пачатак у 18 гадзін.

# Фотаконкурс

Гмінны асяродак культуры (ГАК) у Нараўцы па вул. Новай 3 супольна з Таварыствам аховы пушчы абʼявілі конкурс прыродазнаўчых фотаздымкаў, зробленых на тэрыторыі Нараўчанскай гміны. Здымкі можна дасылаць у ГАК у Нараўцы да 31 мая 1999 года. Найлепшыя з іх будуць узнагароджаны.

У справе конкурсу можна кантактавацца па тэлефоне 685-80-34 або 685-80-68.

**(гай)**



# SZANOWNI ABSOLWENCI SZKÓŁ ŚREDNICH!

Uprzejmie informujemy, iż Uniwersytet Marii Curie-Skłodowskiej w Lublinie prowadzi rekrutację kandydatów na I rok filologii białoruskiej.

Kryteria klasyfikacyjne:

1. Rozmowa kwalifikacyjna na temat:

a) geografia oraz historia Białorusi (podstawowe informacje);

b) zwiazki Białorusi z Polską w przeszłości i obecnie;

c) kultura Białorusi ze szczególnym uwzględnieniem literatury (refleksje o twórczości wybranych autorów);

d) aktualna sytuacja społeczno-polityczna i gospodarcza Białorusi;

e) zróżnicowanie narodowościowe i religijne Białorusi;

f) mniejszość białoruska w Polsce.

Rozmowa prowadzona będzie w języku białoruskim lub rosyjskim (wyboru języka dokonuje kandydat). Komisja ocenia wiedzę merytoryczną kandydata oraz jego przygotowanie językowe.

2. Egzamin ustny z języka polskiego (historia literatury, elementy teorii literatury, nauka o języku).

Z postępowania kwalifikacyjnego zwolnieni są uczestnicy III st. Olimpiady Języka Białoruskiego.

Termin egzaminu wstępnego: 2.07.1999.

Kandydaci ubiegający się o przyjęcie na I rok filologii białoruskiej powinni złożyć następujące dokumenty:

1. kwestionariusz (można go otrzymać w miejscu składania dokumentów) wraz z życiorysem;

2. świadectwo dojrzałości w oryginale lub jego odpis wydany przez szkołę na druku świadectwa dojrzałości bądź duplikat. Dopuszcza się możliwość złożenia kserokopii świadectwa dojrzałości. Ostateczny termin złożenia oryginału mija w dniu wpisu na studia (nie później niż do dnia 23.VII. br.);

3. cztery fotografie o wymiarze 37 x 52 mm bez nakrycia głowy na jasnym tle;

4. orzeczenie lekarskie stwierdzające brak przeciwwskazań zdrowotnych do podjęcia studiów na wybranym kierunku;

5. poświadczenie wniesionej opłaty rekrutacyjnej (55,00 zł.) na konto: BRE SA O/Lublin 11401094-00-290516-PLNCURR 14-47;

6. dwie koperty ze znaczkami pocztowymi na listy polecone z aktualnym adresem do korespondencji.

Miejsce składania dokumentów (listem poleconym lub osobiście): Dziekanat Wydziału Humanistycznego UMCS w Lublinie (gmach Rektoratu, II piętro, pokój 209, tel. 537-52-08), Plac Marii Curie-Skłodowskiej 5, 20-031 Lublin.

Dokumenty powinny być złożone (w zwykłej teczce aktowej) do dnia 19.06.1999. Kandydaci pragnący złożyć dokumenty w terminie późniejszym muszą skontaktować się bezpośrednio z sekretarzem Wydziałowej Komisji Rekrutacyjnej (pokój 309 lub 333 gmachu Wydziału Humanistycznego UMCS).

UMCS już po raz siódmy w swojej historii dokonuje naboru studentów na kierunek filologii białoruskiej. Jesteśmy przekonani, że i w tym roku nie zabraknie wśród nich absolwentów LO z Białostocczyzny.

**Kierownik Pracowni**
**dr Michał Sajewicz**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, я была ў горадзе і прыснілася мне, што я ў сваёй хаце на вёсцы. Мая дачка мыла вокны, якія ўстаўляем мы на зіму. Памыла на ганку і перайшла мыць у хату, у свой пакой. Калі я ўбачыла, то ад вуліцы акно было памытае, у ім былі дзве шыбы — у правую і сярэднюю ўстаўлена шкло, а ў левую не было ўстаўлена. Тады дачка перайшла да другога акна, выцерла яго і ўстаўляла там сярэднюю шыбу. Я кажу ёй: „Ты яшчэ зарана ўстаўляеш зімовыя вокны". Але яна кажа, што будзе ранняя зіма, ну і пасля не будзе мець часу, бо будзе пісаць. Але што яна збіраецца пісаць, я не даведалася, бо прачнулася.

А пазней мне снілася, што я ў сваякоў у горадзе. Мы сядзім у пакоі. Раптам адчуваю, што мне свярбіць галава. У валасах бышчам нейкія струпы. Я пачынаю іх абрываць пальцамі і кідаць на падлогу. Тут я апамяталася, што так рабіць не выпадае. І перастала лезці пальцамі ў валасы.

**Анэта**

Анэта! Па ўсім відаць, што ў цябе шмат праблем. Нейкія клопаты, боль, сумныя справы. А ўсе гэтыя смуткі выкліканыя, бадай, справамі дачкі.

Гэта ж твая дачка мыла тыя вокны, хацела ўстаўляць падвойныя на зіму. Што абазначаюць вокны? Вокны наогул сняцца на смутак, асабліва, калі яны адчыненыя. Але калі і зачыненыя, дык гэта таксама сум. Ну, можа, тое, што яна мыла вокны, давала б нейкую надзею на паляпшэнне спраў, аднак жа яна рыхтавала іх да ўстаўлення падвойных вокан на зіму, а зіма таксама не прадвяшчае нічога вясёлага.

Ты бачыла акно, якое складалася з трох частак, і ў дзве былі ўстаўлены шыбы, а ў трэцюю — не. Ці тая, што была без шыбы, не абазначае той твой клопат з дачкой?! Мо ў цябе трое дзяцей, га?

Бадай, твой смутак яшчэ крыху патрывае, бо і другі сон прадвяшчае нейкую крыўду і непрыемнасць. Толькі прыгожыя і здаровыя валасы прадвяшчаюць задавальненне, поспех ці багацце. Болькі ў тваіх валасах абазначаюць маркоту.

**Астрон**



# Дзень спорту ў Гайнаўцы

1 чэрвеня — з нагоды Дня спорту — Асяродак спорту і рэкрэацыі ў Гайнаўцы па вул. А. Дзевятоўскага 2 запрашае на лёгкаатлетычныя спаборніцтвы. Адбудуцца яны на стадыёне АСіР. Пачатак спартыўнага мерапрыемства ў 13 гадзін.

**(гай)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** ЯўгенМіpановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

*Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.*
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1999 r. upływa 5 czerwca 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

 

# Ніўка




Малюнак
Алеся СУРАВА

## Мара Марыны

Чалавек з гітарай
Не быў бы мне парай,
А найменш з матурай —
Гэта ёсць фігура!
Хай бы ён з тутэйшых,
Гэта клопат *мнейшы*,
Ды найфайней, каб не з *-укаў*
Ў маё сэрца пан застукаў,
Да таго ўдоваль багаты,
З самаходам, ну, і з хатай,
Каб да гэтых, цьфу іх, грошай
Ён і з твару быў харошы,
І ў пасцелі надта прыткі
Дый не лёгкі да выпіткі,
Не хапаў мяне за скабы,
І з абедаў каб быў рады...
Ну, абеды... У рэстаране
Хай ён корміць сваю паню,
Мяне, значыць. Я за гэта
Апяю яго ў санетах.

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 ГА | РЫ | 2 ЛА | | 3 ЛУ | ПІ | 4 НА |
| НУ | ■ | 5 МА | 6 КА | КА | ■ | ГС |
| 7 АР | 8 АБ | ■ | | ■ | 9 БЯ | ДА |
| | 10 Д | | | | ЗМ | |
| 11 КР | АК | ■ | | ■ | 12 ЕН | 13 |
| ЭС | ■ | 14 | | 15 КА | ■ | |
| 16 ЛА | ЯН | КА | | 17 РА | БС | ЧЫ |

**Гарызантальна:** 1. буйная чалавекападобная малпа, 3. вонкавая абалонка плода, 5. невялікая вузканосая малпа, 7. напр. Садам Хусейн, 9. гора, 10. ухіленне выбаршчыкаў ад удзелу ў выбарах у дзяржаўныя органы, 11. легендарны заснавальнік Кракава, 12. Сіман, славенскі паэт (1835—1869), 14. жонка арыйца, 16. сварка, 17. наёмны работнік, які займаецца вытворчай працай.

**Вертыкальна:** 1. вырабляе гліняную пасуду, 2. будыйскі манах, 3. евангеліст, 4. спрыяльны выпадак, 6. тлумачэнні да тэксту, 8. падбярозавік, 9. ручная рычажная вага, 11. прадмет мэблі для сядзення, 13. порт у Пакістане, 14. дугападобнае перакрыццё праёма ў сцяне, 15. паверхневая частка ствала дрэвавых раслін.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 16 нумара**

**Гарызантальна:** Осака, Ісінамакі, шпага, аўсюк, Ёса, Гановер, Кіплінг, шар, абсяг, Данія, Ілемніцкі, таксі.

**Вертыкальна:** вазапіс, Осіма, атака, Іваноўскі, Інсіланці, Шчара, Кунья, ёрш, акр, Арынока, глейт, дэцкі.

Рашэнне: **Клімент Смаляціч**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Кароткі курс параноі

### Зварот Івана Кірызюка да Бога, або Як цяжка беларусу быць украінцам

Дивлюсь я на небо
Та й думку гадаю:
Чому ж я не сокіл,
Чому не літаю?

Чому ж мене, Боже,
Ти крилець не дав —
Я землю б покинув
Та й в небо злітав.

Обридло в Підляши
Сіяти культуру.
Тут люди не наши,
Ні з пня, ні з натури.

Ідеш до іх з медом,
Гиркнуть чужим *рэхам.*
Сусід вже став Шведом,
Як голова — Чехом.

Поміняли предків,
Поміняли віру.
І кажуть, що рід іх
З литвинского *віру.*

Ходжу по „Стіни" я —
І світ мне не милий.
Зову: — На гостинець!
А чую: — *На мыла!*

О, люди, кохани!
Забути Могилу?
Коріння? Слов'яни!
— *O-kur-de! У магілу!*

Забули про Бульбу,
Тарас тут не в моди.
Одно тільки гульби
Живучи в народи.

Наталку-Палтавку
Сватать нема сили.
— *Дай* — кажуть — *паўкварты,*
*А не — Тэрмапілы!*

Впусти мене, Боже,
на кращу планету.
Нема лишку крилець —
Дай чэк на ракету.

* * *

— Вылазіць будзем ці далей паедзем? — спытаў Швейк паручніка Лукаша, калі касмічны карабель збавіў хуткасць, падыходзячы да Марса.

— Абрыдла вайна, — сказаў паручнік. — Паедзем на Сатурн, да бога сейбітаў.

**Падглядзеў Сідар МАКАЦЁР**

***Факс сябравіцкага паэта Галавасцюка***

### Пытанне

Жылі мы адвеку
Між Нарвай і Бугам
Не ведалі межаў
Між сябрам і другам.

Адна была доля
І яе крыніцы.
Перад моцным гуртам
І доля скарыцца.

Дык якога ліха
Крывяцкі Іване,
*Сіеш* варажнечу?
Вось і ўсё пытанне.

### Корань зла

Былі браты, сваякі,
Мірна гарох пражылі,
Ажно прыйшлі з-за ракі
Злыдухі ваяжныя.

Дзеляць, крышаць, ставяць плот,
То сцяну глухую.
Скаламуцілі народ,
А цяпер рахуюць.

Беларус — калі не грак,
Калі бель у чупрыне.
Хата ў полі, ты — паляк,
З краю — украінец.

Эх, каб выбралі мяне
У паны-прэзідэнты,
Даў бы я гэтай мане
І пад *хвіст* і ў *піęty*!

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Віншую! Зведаў я, што твая жонка выйграла ў *таталётак* дзесяць мільёнаў...

— Па-першае — не дзесяць мільёнаў, толькі адзін мільён, па-другое — не ў *таталётак*, а ў карты, па-трэцяе — не мая жонка, толькі я сам, і па-чацвёртае — не выйграў, толькі прайграў.

* * *

— Пеця, ці ты любіш дурных баб?

— Не.

— А такіх, якія не любяць варыць?

— Не.

— А такіх, якія цябе абгаворваюць?

— Таксама не!

— У такім выпадку скажы, чаго ты лазіш за маёю жонкай?

* * *

— Мая жонка, калі ёй баліць зуб, спявае.

— Чаму?

— Каб цярпеў я разам з ёю.

* * *

Пасля сваркі з жонкаю муж у роспачы бяжыць да рэчкі тапіцца. Раптам чуе голас ззаду:

— Вяртайся, вяртайся!

— Хто ты? — пытае.

— Твой анёл-ахоўнік.

— А дзе ж ты быў, калі я жаніўся?!

* * *

На паховінах:

— Не сумуй, — гаворыць сябра ўдаўцу, — ці ж не верыш, што сустрэнешся са сваёю жонкай у небе?

— Веру, таму і сумую.

* * *

Пасля адкрыцця завяшчання выявілася, што пакойнік усю сваю маёмасць запісаў не жонцы, толькі другой жанчыне. Раззлаваная ўдава вырашыла памяняць эпітафію на магіле і падалася з гэтаю мэтай да каменячоса.

— Гэта немагчыма, — кажа майстар, — я ўжо высек „Спачывай у спакоі".

— Дык дапішыце яшчэ: „пакуль не сустрэнемся".

* * *

— Мая жонка — анёл!

— Што ты скажаш! А я і не ведаў, што ты ўжо аўдавеў.

* * *

Сямейная сварка:

— Лепш бы я зрабіла, — крычыць жонка мужу, — каб была выйшла за чорта!

— Шлюбы паміж такімі блізкімі сваякамі забаронены!

* * *

— Якая хвароба пагражае нам у сувязі з ростам ролі касцёла ў Польшчы?

— Кліроз.

* * *

— Які мужчына наймудрэйшы?

— Ксёндз, бо дае шлюбы, а сам не жэніцца.

 